ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (154) студзень 2024 год
CATHOLICNEWS.BY










# "Чалавек малітвы": біскуп Алег Буткевіч адзначыў дзясятую гадавіну біскупскіх пасвячэнняў

**Дзесяць гадоў таму, 18 студзеня 2014 года, біскуп Алег Буткевіч у Віцебскай катэдры прыняў біскупскае пасвячэнне з рук Апостальскага нунцыя ў Беларусі Клаўдыа Гуджэроці. Тады падчас урачыстасці была зачытаная папская була – спецыяльны дакумент на лацінскай мове. Пераклад булы на беларускую мову агучыў ксёндз-пралат Францішак Кісель. Папа Францішак у буле напісаў, што біскуп Алег Буткевіч "хвалебнымі здольнасцямі надзелены і ў святых рэчах дасведчаны, быў прызнаны адпаведным, каб ёю [катэдрай Віцебскага Касцёла] кіраваць".**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

18 студзеня 2024 года святары, браты і сёстры законныя, свецкія прадстаўнікі парафій Віцебскай дыяцэзіі сабраліся ў катэдральным касцёле, каб супольнай малітвай адзначыць знамянальную падзею.

Ужо на самым пачатку Літургіі біскуп Алег падзякаваў Богу за кожнага прысутнага святара і верніка, законнага брата і сястру, бо біскуп нічога не можа зрабіць без прэзбітэрыя, біскуп не патрэбны ў пустым касцёле без вернікаў. Ардынарый падзякаваў усім, хто быў побач тады, дзесяць гадоў таму, і з кім на працягу гэтага дзесяцігоддзя супрацоўнічае і служыць.

На ўрачыстай святой Імшы прысутнічалі дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі, які роўна праз тыдзень адзначыць таксама гэтую памятную дату, Апостальскі адміністратар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Падчас гаміліі, якую прамовіў біскуп Юрый, іерарх паразважаў пра дар, каторы мае Віцебская дыяцэзіі, пра дар ардынарыя, каторы ў дадзены момант кіруе ёй. "Не вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў". Біскуп Юрый паразважаў над гэтымі словамі ў перспектыве чытання з кнігі Самуэля, калі натхнёны аўтар распавядае пра выбар караля Давіда. "Чалавек бачыць па-свойму, Бог бачыць інакш, чалавек бачыць тое, што вонкавае, Бог пранікае ў сэрца чалавека», – падкрэсліў прамоўца і прыгадаў пра справу выбару дзесяць гадоў таму новых біскупаў для Беларусі. "Нам цяжка сказаць, чаму быў такі выбар. <...> Нам было не зразумела, чаму менавіта нас Папа Францішак выбраў, чаму менавіта так усё адбываецца. Але Бог ужо тады хацеў паставіць пробашча парафіі святога Антонія ў Віцебску Алега Буткевіча біскупам Віцебскай дыяцэзіі. І, напэўна, выбраў яго яшчэ раней, калі мама і тата за ручку вадзілі ў касцёл. Але Бог праяўляе сваю мудрасць і адразу не раскрывае ўсе таямніцы. Бо калі б такі маладзенькі хлопчык даведаўся, што Бог ускладзе на яго плечы нясенне крыжа – быць біскупам, кіраваць дыяцэзіяй, то, напэўна, чалавек адказаў бы: "Пане Божа, не! Я нават у семінарыю не пайду".

Потым біскуп Юрый засяродзіўся на словах, якія змешчаныя на гербе біскупа Алега: "Няхай споўніцца Твая воля, Пане". Гэта тое, што з перспектывы дзесяці гадоў біскупскай паслугі можна прасачыць у яго служэнні. "Не толькі з перспектывы дзесяці гадоў біскупскага служэння, але з перспектывы часу семінарыйнага і святарскага я магу смела адзначыць, што біскуп Алег Буткевіч – гэта чалавек малітвы, чалавек, які жыве Богам. Не сустракаецца з Хрыстом час ад часу, не сустракаецца з Богам толькі тады, калі прыходзіць у святыню на малітву, калі ёсць нагода, але жыве кожную хвіліну свайго жыцця. Хрыстос у яго жыцці – гэта Той, з Кім ён ідзе, трымаючыся моцна за руку. Гэта малітва, гэта трыманне, гэты давер Богу – усё гэта з'яўляецца менавіта тым, што дазваляе біскупу Алегу быць той галінкай, якая прыносіць плод, той плод, які хоча Бог", – падкрэсліў іерарх.

На заканчэнне Эўхарыстыі словы віншавання скіраваў біскуп Юрый Касабуцкі ад імя ўсёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, старшынёй якой з'яўляецца біскуп Алег, а таксама архімандрыт Сяргей Гаек.

Пацвярджэннем годнага выканання біскупам Алегам Буткевічам абавязкаў ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі, яго глыбокай духоўнай сувязі з вернікамі сталі сардэчныя, шчырыя віншаванні ад святароў, манаскіх супольнасцяў, супрацоўнікаў курыі і прадстаўнікоў парафій з розных дыяцэзій.

Стар. 8



**Думаеш, куды паехаць на выхадныя? Да Маці Божай!**

Стар. 7



**"Але найбольшая з іх – любоў". Сям'я Кісель: хвароба, вера і каханне**

Стар. 10



**Конкурс батлеек прайшоў у Віцебску**

# Дыпламатыя Святога Пасаду: галоўныя падзеі 2023 года

**Апостальская Сталіца падтрымлівае паўнавартасныя дыпламатычныя адносіны з 184 краінамі свету без уліку наднацыянальных структур. Мінулы год быў плённым для ватыканскай дыпламатыі.**

Зала Друку Апостальскай Сталіцы паведаміла, што свае прадстаўніцтвы ў Рыме мае 91 дыпламатычная місія пры Святым Пасадзе, уключаючы Еўрапейскі Саюз і Суверэнны Мальтыйскі Ордэн. Да іх трэба дадаць прадстаўніцтвы Лігі арабскіх дзяржаў, Міжнароднай арганізацыі па міграцыі і офіс Вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў.

У 2023 годзе адбыўся шэраг важных падзей для дыпламатыі Святога Пасаду. Былі ўстаноўленыя дыпламатычныя адносіны з Султанатам Аман. Адбылася ратыфікацыя дадатковага пагаднення да Дамовы паміж Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Казахстан аб узаемных адносінах, заключанай 24 верасня 1998 года, якое тычыцца выдачы віз і дазволаў на жыхарства для замежных святароў і законнікаў, katoрыя прыбываюць для служэння ў гэтай краіне. Акрамя таго, Святы Пасад заключыў пагадненне з В'етнамам аб статусе пастаяннага папскага прадстаўніка з рэзідэнцыяй у Ханоі. Яго прызначэнне адбылося 23 снежня.



У мінулым годзе адзначалася 100-годдзе дыпламатычных адносін паміж Апостальскай Сталіцай і Панамай, 70-годдзе – адносін з Іранам, 60-годдзе – з Рэспублікай Карэя і 50-годдзе – з Аўстраліяй.

# У Нікарагуа атрымалі пасвячэнне новыя святары

**Архідыяцэзія Манагуа папоўнілася дзевяццю новымі святарамі. Гэта адбылося на фоне арыштаў, якія, па словах Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека, падрываюць права на свабоду веравызнання.**

6 студзеня ва ўрачыстасць Аб'яўлення Пана кардынал Леапольда Брэнэс удзяліў у сталічнай архідыяцэзіі Нікарагуа прэзбітарскае пасвячэнне дзевяці дыяканам. У цырымоніі, якая праходзіла ў катэдральным саборы Манагуа, з радасцю і хваляваннем прынялі ўдзел шматлікія вернікі.

У сваёй гамііі іерарх падзякаваў Богу за "цудоўны дар" – новых святароў. Ён падкрэсліў, што святарства – гэта "не ўлада, а місія і служэнне", а святары – гэта сведкі, закліканыя "жыць у адзінстве і братэрстве".

### Новая хваля арыштаў

Новыя святары былі пасвечаныя ў складаны для нікарагуанскага Касцёла час. Пачынаючы з 20 снежня 2023 года, у краіне арыштавана па меншай меры 14 святароў, два семінарысты і біскуп Сіуны Ісідор дэль Кармэн Мора Артэга. Апошні гвалтоўна знік пасля малітвы за мансеньёра Раланда Альварэса, біскупа Матагальпы і Апостальскага адміністратара дыяцэзіі Эстэлі. Асуджаны на 26 гадоў турэмнага зняволення, біскуп Альварэс знаходзіцца ў турме з лютага 2023 года.

У касцельнай супольнасці Манагуа расце заклапочанасць лёсам затрыманых святароў, асабліва тых, хто мае праблемы са здароўем: ксяндза Ізмаэля Сэрана і ксяндза Гэрарда Радрыгеса, якія маюць патрэбу ў медыцынскай дапамозе.

### Зварот ААН да ўрада Нікарагуа

Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека ў Цэнтральнай Амерыцы звярнулася да ўрада Нікарагуа з новым заклікам тэрмінова паведаміць пра месцазнаходжанне біскупа Ісідора Моры. "Утойванне гэтай інфармацыі ставіць пад пагрозу яго жыццё", – гаворыцца ў звароце.

На думку Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека, Нікарагуа ўсё больш аддаляецца ад вяршэнства закона і фундаментальных свабод, пераследуючы "палітычных лідараў і лідараў карэнных народаў, чальцоў Каталіцкага Касцёла, актывістаў і журналістаў".

### Малітва Папы Францішка

1 снежня 2023 года падчас малітвы Анёл Панскі Папа прызнаўся ў сваёй затурбаванасці сітуацыяй у Нікарагуа. "Я з глыбокай заклапочанасцю сачу за тым, што адбываецца ў Нікарагуа, дзе пазбаўляюць волі біскупаў і святароў. Выказваю ім, іх сем'ям і ўсяму Касцёлу ў краіне маю блізкасць у малітве. Запрашаю таксама ўсіх вас, прысутных тут, і ўвесь народ Божы да настойлівай малітвы, спадзеючыся на тое, што мы заўсёды будзем шукаць шляху дыялогу для пераадолення цяжкасцяў. Сёння мы молімся за Нікарагуа", – сказаў Папа Францішак.

Нікарагуанскія ўлады да гэтага часу не пацвердзілі і не абвергл інфармацыю пра затрыманні духавенства.


Кардынал Брэнэс удзяліў прэзбітарскае пасвячэнне дзевяці дыяканам у Манагуа



# Пантыфік правёў тэлефонную размову з Прэзідэнтам Украіны

**У тэлефоннай размове Прэзідэнт Украіны выказаў падзяку Папу Францішку за віншаванне са святам Божага Нараджэння, а таксама за падтрымку Формулы міру, у якой удзельнічае больш за 80 дзяржаў.**

Тэлефонная размова Папы з Уладзімірам Зяленскім адбылася ўвечары 28 снежня 2023 года. Пра гэта Прэзідэнт Украіны паведаміў у сваім вячэрнім відэазвароце, апублікаваным на афіцыйным сайце.

"Толькі што гаварыў з Яго Святасцю Папам Францішкам. Падзякаваў за віншаванне з Божым Нараджэннем для Украіны і ўкраінцаў, за пажаданні міру, справядлівага міру для ўсіх нас. Мы абмяркавалі нашу сумесную працу над Формулай міру: звыш 80 дзяржаў ужо ўдзельнічае у ёй на ўзроўні сваіх прадстаўнікоў. Будзе больш. Я ўдзячны Ватыкану за падтрымку нашай працы", – сказаў Прэзідэнт Зяленскі.

13 мая 2023 года Святы Айцец прыняў Прэзідэнта Украіны ў Ватыкане. Гэта была іх першая асабістая сустрэча пасля пачатку вайны. Да гэтага яны сустракаліся ў 2020 годзе.

За час вайны паміж Папам Францішкам і Зяленскім адбылося некалькі тэлефонных размоў. Першая з іх прайшла 26 лютага 2022 года, праз два дні пасля пачатку канфлікту. Каментуючы гэтую размову ў Твітэры, Зяленскі адзначыў, што "Папа выказаў глыбокі смутак у сувязі з трагічнымі падзеямі, якія адбываюцца ў краіне", і што "украінскі народ адчувае духоўную падтрымку Папы".

Наступная тэлефонная размова адбылася 22 сакавіка 2022 года. Зяленскі паведаміў у Твітэры, што распавёў Папу "пра складаную гуманітарную сітуацыю і пра заблакаваныя расійскімі войскамі гуманітарныя калідоры", адзначыўшы, што "вітаў бы пасярэдніцкую ролю Святога Пасаду ў спыненні чалавечых пакутаў".

Яшчэ адна тэлефонная размова адбылася 12 жніўня 2022 года. Зноў жа ў Твітэры Прэзідэнт Украіны паведаміў, што распавёў Святому Айцу пра пакуты насельніцтва Украіны, падзякаваў за малітвы і выказаў надзею на яго візіт у Кіеў.

# Urbi et Orbi: Няхай Божае Нараджэнне адновіць надзею і даруе мір!

**“Вайна – гэта вар’яцтва, якому няма апраўдання. Давайце зробім так, каб народ больш не ўздымаў мяча на народ”, – заклікаў Папа 25 снежня 2023 года перад святочным бласлаўленнем Urbi et Orbi.**



“Дарагія браты і сёстры, з Нараджэннем Пана! Позіркі і сэрцы хрысціян усяго свету звернутыя да Бэтлеему. У гэтыя дні там пануюць смутак і маўчанне, аднак менавіта там упершыню прагучала доўгачаканая навіна: “Нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан” (Лк 2,11). Гэтыя словы, прамоўленыя анёлам у нябёсах над Бэтлеемам, звернутыя і да нас. Надзея і давер напаўняюць нас, калі мы ўсведамляем, што Пан нарадзіўся дзеля нас, што вечнае Слова Айца, бясконцага Бога, жыве сярод нас. “Слова стала целам і пасялілася між намі” (Ян 1,14). Вось добрая навіна, якая змяніла ход гісторыі!” – сказаў Папа Францішак у сваім калядным звароце.

Святы Айцец падкрэсліў, што “Бэтлеемская навіна – гэта сапраўды добрая навіна “вялікай радасці” (Лк 2,10). Не мімалётнае шчасце гэтага свету, не радасць забаваў, а радасць “вялікая”, таму што робіць нас вялікімі. Сёння ўсе мы, з усімі нашымі недахопамі, прымаем надзейнае абяцанне небывалага дару: надзею нарадзіцца для нябёсаў. Так, Езус, наш Брат, прыйшоў, каб зрабіць свайго Айца нашым: маленькае Дзіцятка адкрывае нам ласкавую любоў Бога і значна больш: Ён, адзінародны Сын Айца, дае нам “уладу стаць Божымі дзецьмі” (Ян 1,12). Вось радасць, якая суцяшае сэрца, аднаўляе надзею і дарue мір. Гэта радасць Святога Духа: радасць быць умілаванымі дзецьмі Божымі”.

Папа зазначыў, што сёння ў Бэтлееме, у цемры, якая пакрывае зямлю, запаліўся нязгасны агонь. Сёння цемра свету пераможаная святлом Божым, якое “асвятляе кожнага чалавека” (Ян 1,9). Давайце ж радавацца гэтаму дару ласкі! Радуйся той, хто страціў упэўненасць, бо ты не самотны: Хрыстус нарадзіўся дзеля цябе! Радуйся той, хто страціў усякую надзею, бо Бог працягвае табе руку! Ён не паказвае на цябе пальцам, але прапануе сваю дзіцячую руку, каб вызваліць цябе ад страхаў і цяжару і паказаць, што ў Яго вачах ты каштоўнейшы за ўсё на свеце. Радуйся той, хто не знаходзіць спакою ў сэрцы, бо дзеля цябе споўнілася старажытнае прароцтва Ісаі: “Дзіця нарадзілася нам, Сын дадзены нам”, “Князь міру!” (Іс 9,5).

Пантыфік заўважыў, што ў Святым Пісанні Князю міру супрацьстаіць “князь гэтага свету” (Ян 12,31), які сее насенне смерці. Мы бачым гэта ў Бэтлееме, дзе пасля нараджэння Збаўцы адбываецца забойства немаўлят. “Колькі забойстваў немаўлят у нашым свеце! Ва ўлонні маці, у падарожжах роспачы і надзеі, у жыцці многіх дзяцей, чыё дзяцінства разбуранае вайной. Яны – маленькія Езусы сённяшняга дня”, – са шкадаваннем адзначыў Папа Францішак.

На думку Папы, “сказаць “так” Князю міру – значыць, сказаць “не” вайне, любой вайне, самой логіцы вайны, бязмэтнаму падарожжу, паразе без пераможцаў, вар’яцтву, якому няма апраўдання. Сказаць “не” вайне – значыць, сказаць “не” зброі. Чалавечае сэрца слабае і імпульсіўнае, калі ў руках чалавека з’яўляюцца прылады смерці, рана ці позна ён імі скарыстаецца. Пра які мір можна казаць, калі вытворчасць і продаж зброі растуць?” – запытаў Папа Францішак, заклікаючы людзей даведацца, колькі дзяржаўных сродкаў ідзе на ўзбраенне. “Пра гэта трэба казаць і пісаць, каб выявіць інтарэсы і выгады, которыя прыводзяць у рух марыянеткавыя ніткі вайны”, – лічыць Святы Айцец.

Ісая, што прарочыў пра Князя міру, прадчуваў дзень, калі “не ўздыме народ на народ мяча і не будуць больш вучыцца ваяваць”, а “перакуюць мячы свае на плугі, і дзіды свае на сярпы” (Іс 2,4). “З Божай дапамогай давайце зробім так, каб гэты дзень наблізіўся!” – заклікаў Пантыфік.

“Хай гэта адбудзецца ў Ізраілі і Палесціне, дзе вайна разбурае жыцці гэтых народаў. Я абдымаю іх усіх, асабліва хрысціянскія супольнасці Газы і ўсёй Святой Зямлі. Маё сэрца баліць пры думцы аб ахвярах жудаснага нападу 7 кастрычніка, і я зноў звяртаюся з настойлівым заклікам вызваліць тых, хто ўсё яшчэ знаходзіцца ў закладніках. Я прашу спыніць ваенныя аперацыі з іх жахлівай колькасцю ахвяраў сярод грамадзянскага насельніцтва і заклікаю да вырашэння адчайнай гуманітарнай сітуацыі шляхам дастаўкі гуманітарнай дапамогі. Хай будзе пакладзены канец распальванню гвалту і нянавісці! І няхай палесцінскае пытанне будзе вырашанае шляхам шчырага і настойлівага дыялогу паміж бакамі, з дапамогай моцнай палітычнай волі і падтрымкі міжнароднай супольнасці!”– пажадаў Святы Айцец.

“Мае думкі звернутыя таксама да народа разбуранай Сірыі і шматпакутнага Емена. Я таксама думаю пра дарагі ліванскі народ і малюся аб хуткім дасягненні палітычнай і сацыяльнай стабільнасці”, – дадаў Пантыфік.

“Сузіраючы Дзіцятка Езуса, я малю аб міры для Украіны. Давайце адновім нашу духоўную і чалавечую блізкасць да яе змучанага народа, каб праз падтрымку кожнага з нас ён мог адчуць канкрэтнасць Божай любові!” – заклікаў Папа.

“Няхай наблізіцца дзень канчатковага міру паміж Арменіяй і Азербайджанам. Няхай гэта адбудзецца шляхам рэалізацыі гуманітарных ініцыятыў, вяртання уцекачоў у свае дамы ва ўмовах законнасці і бяспекі, а таксама ўзаемнай павагі да рэлігійных традыцый і месцаў культу кожнай супольнасці”, – сказаў Папа Францішак.

Святы Айцец заклікаў “не забываць пра напружанасць і канфлікты, якія турбуюць рэгіён Сахель, Афрыканскі Рог і Судан, а таксама Камерун, Дэмакратычную Рэспубліку Конга і Паўднёвы Судан”. Ён таксама пажадаў, каб “наблізіўся дзень аднаўлення брацкіх повязяў на Карэйскім паўвостраве, адкрыўшы шляхі дыялогу і прымірэння, здольныя стварыць умовы для трывалага міру”.

“Няхай Сын Божы, Які стаў сціплым Дзіцяткам, натхніць палітычныя ўлады і ўсіх людзей добрай волі амерыканскага кантынента на пошук прымальных шляхоў вырашэння сацыяльных і палітычных канфліктаў, на барацьбу з рознымі формамі беднасці, якія абражаюць годнасць чалавека, на скарачэнне няроўнасці і вырашэнне трывожнага феномену міграцыі”, – заклікаў Папа Францішак.

Папа заахвоціў вернікаў “быць голасам тых, у каго няма голасу: нявінных дзяцей, якія памерлі праз адсутнасць хлеба і вады; тых, хто не можа знайсці працу або страціў яе; тых, хто вымушаны бегчы са сваёй Радзімы ў пошуках лепшай будучыні, рызыкуючы жыццём у знясільвальных падарожжах і становячыся ахвярай нядобрасумленных гандляроў людзьмі”.

“Браты і сёстры, набліжаецца час ласкі і надзеі – Юбілей, які пачнецца праз год. Няхай гэты перыяд падрыхтоўкі да Святога года стане магчымасцю для навяртання сэрцаў, для адмовы ад вайны і прыходу міру, для радаснага адказу на выказаны ў прароцтве Ісаі заклік Пана “абвяшчаць добрую навіну ўбогім, перавязваць раны змучаных сэрцаў, прапаведаваць вызваленне палонным і вязням – свабоду” (Іс 61,1). Гэтыя словы спраўдзіліся ў Езусе (пар. Лк 4,18), Які нарадзіўся сёння ў Бэтлееме. Давайце прывітаем Яго! Адкрыем нашыя сэрцы Яму, Збаўцу, Князю міру!” – завяршыў свой святочны зварот Папа Францішак.

*Старонкі 2- 3 падрыхтаваныя па матэрыялах Vatican News*

# У Партугаліі пасля СДМ палепшыўся імідж Касцёла

**Валанцёры Сусветных дзён моладзі ў Лісабоне лічаць, што глабальная сустрэча маладых католікаў, якая праходзіла 1-6 жніўня 2023 года, паспрыяла паляпшэнню іміджу Каталіцкага Касцёла.**

Як распавяла агенцтву KAI Мануэла Араужо з парафіі Маці Божай Фацімскай у Лісабоне, пасля заканчэння форуму “мы бачым большую прыхільнасць да католікаў у Партугаліі”.

З такім меркаваннем згодная і Ана Сілва са сталічнай парафіі святога Тамаша Аквінскага, якая адзначыла, што арганізацыя мерапрыемства, у якім прынялі ўдзел звыш мільёна католікаў з усяго свету і Папа Францішак, прынесла карысць не толькі Каталіцкаму Касцёлу, але і многім установам. “Поспех Сусветных дзён прызнаюць розныя групы насельніцтва Партугаліі, у першую чаргу тыя, хто заняты ў турыстычным сектары, якія атрымаў рэкордныя даходы”, – сказала яна.



Паводле ацэнак партугальскага ўрада, у 2023 годзе турыстычная галіна краіны паказала найлепшыя фінансавыя вынікі за ўсю сваю гісторыю. Па словах дзяржсакратара па турызме Нуну Фасенды, у мінулым годзе абарот турыстычнага сектара Партугаліі склаў 25 мільярдаў еўра, што на 37 працэнтаў больш, чым у 2019 годзе, які да гэтага часу лічыўся рэкордным. Яна прызнала, што на рэкордны вынік вялікі ўплыў аказала арганізацыя Сусветных дзён моладзі.

# Кс. Зянон Якуць. Да 100-годдзя адыходу ў вечнасць

**9 студзеня 1924 года ў Шаркаўшчыне ва ўзросце 29 гадоў памёр кс. Зянон Якуць. Ён быў адным з нямногіх святароў, якія сто гадоў таму ўжывалі беларускую мову ў казаннях. “Няведама, што вышэй было ў асобе Кс. З.: яго пастырства духоўнае, яго беларускасьць, ці яго важкасьць, як чалавека. Усе гэтыя тры ўласнасьці нябожчыка станавілі адзін суцэльны, адзін ідэальны, адзін нязвычайны характар”, – пісаў пра яго вядомы беларускі дзеяч кс. Адам Станкевіч.**



Кс. Зянон Якуць

Пра тое, як у Дзісенскім павеце пачалі прамаўляць першыя казанні па-беларуску падчас візітацыі біскупа Эдварда Ропа летам 1917 года, я пісаў у “Каталіцкім Весніку” №7 і №8 за 2022 год. У той час у Шаркаўшчыне казанне па-беларуску прамовіў кс. Міхал Пятроўскі, і па просьбе вернікаў біскуп прызначыў яго там пробашчам. Кс. Пятроўскі працягваў прамаўляць беларускія казанні ў час фэстаў і ўрачыстасцяў. У 1919 годзе замест яго ў Шаркаўшчыне стаў служыць кс. Антоні Усціловіч, а ў 1920 годзе яго змяніў 26-гадовы кс. Зянон Якуць.

Зянон Якуць нарадзіўся 22 студзеня 1894 года ў засценку Скурцішкі каля Відзаў у сям’і Яна і Юзэфы (з дому Гасянцоў) Якуцяў. У 1912 годзе скончыў школу ў Відзах і пасля паступіў у духоўную семінарыю ў Вільні. Прыняў святарскае пасвячэнне ў 1919 годзе. Захаваўся абразок з прыміцыйнай Імшы, якую кс. Зянон Якуць адслужыў 9 чэрвеня 1919 года ў Лынтупах. “І ўвайду да алтара Божага, да Бога, Які весяліць маю маладосць”, – гэтую цытату з 43-га псальма змясціў на абразку новапрэзбітар. Ці думаў тады ён, што ў маладосці яго зямное жыццё і скончыцца?

Першы год святарства кс. Зянон Якуць служыў вікарыем у Лынтупах. Там выпісваў газету “Krynica”, якую выдавалі ў Вільні дзеячы Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі на чале з кс. Адамам Станкевічам. Наогул у Лынтупах у тыя гады была пэўная колькасць свядомых беларусаў, і нават на некаторых крамах у 1920 годзе віселі беларускія шыльды.

Стаўшы пробашчам у Шаркаўшчыне, кс. Зянон Якуць апісваў моўную сітуацыю ў сваёй новай парафіі наступным чынам: *“Шаркаўская парафія што да народнасці бадай выключна ёсць беларуская. Усіх яе жыхароў штодзённай мовай ёсць беларуская, іншую мову, напр. польскую яны разумеюць з вялікім трудом. Выняткі нямногія. Дзеля гэтага ўва ўсіх адносінах да парафіян, як відаць з натуры рэчаў, трэба карыстацца мовай беларускай, а так жа ў споведзі і казаннях; тым больш гэта патрэбна, бо ў касцёл ходзяць і праваслаўныя, якія мовы польскай сусім не разумеюць, а якіх наварот да прыблізіваў веры Каталіцкага Касцёла ёсць пажаданы”.*

Ад пачатку свайго служэння ў Шаркаўшчыне кс. Зянон Якуць прамаўляў казанні як на польскай, так і на беларускай мовах. Беларускія казанні былі падчас фэстаў і ўрачыстасцяў. Гэтаму перашкаджалі польскія ўлады, якія хацелі ўмацаваць у нашым краі польскасць, у тым ліку выкарыстоўваючы для гэтага Касцёл. Асабліва нетактоўна паводзіў сябе начальнік III раёна Дзісненскага павета Мечыслаў Сташкевіч, які не саромеўся выдаваць “загады” кс. Віктару Шутовічу ў Барадзенічах і кс. Зянону Якуцю ў Шаркаўшчыне, каб тыя прамаўлялі ў касцёле толькі па-польску. Такі вусны загад перадаў Сташкевіч кс. Якуцю перад урачыстасцю Спаслання Святога Духа 15 мая 1921 года.

*“Ведаючы, што начальнік раёну ня мае права даваць такога распарадку, бо ён ня біскуп – казаньне меў я і пабеларуску,* – пісаў кс. Зянон Якуць. – *Хаця начальнік, на згаршэнне цэлай парафіі, ніколі ў касьцёле ня бывае, тым разам аднак, даведаўшыся, што будзе казаньне пабеларуску 15 мая г. г., прыбыў пад касьцёл і калі ксёндз пачаў мовіць беларускае казаньне, раёновы стаў называць біскупа і ксяндзоў бальшавікамі, халерай і т. п. Гэта дзеілася пры многіх сьведках”.*

Варта сказаць, што нацыяналістычная частка польскага грамадства адкрыта выказвала нянавісць не толькі да беларускіх і літоўскіх ксяндзоў, але і да біскупа Юрыя Матулевіча, які кіраваў Віленскай дыяцэзіяй у 1918-1925 гг. Прычынай нянавісці было справядлівае стаўленне біскупа да беларусаў і літоўцаў. У 1987 годзе Папа Ян Павел II абвясціў Юрыя Матулевіча благаслаўлёным.

Каб адбіцца ад прэтэнзій уладаў, шаркаўшчынскія парафіяне пачалі збіраць подпісы пад дэкларацыяй, што хочуць мець казанні пабеларуску. Толькі з дзвюх вёсак было сабрана паўсотні подпісаў. Калі пра збор даведалася паліцыя, забрала ў беларускай актывісткі Мальвіны Радзюк з вёскі Граўжы аркушы з подпісамі, а саму Мальвіну пратрымала некалькі дзён у турме ў Глыбокім.

Кс. Зянон Якуць запрасіў працаваць арганістам у Шаркаўшчыне Вінцэнта Мядзёлку, бацьку грамадскай дзяячкі Паўліны Мядзёлкі. Перад тым Мядзёлка працаваў арганістам у Глыбокім. Ён застаўся арганістам у Шаркаўшчыне да 1934 года, а яго сын Казімір займаўся там беларускай грамадскай і палітычнай дзейнасцю. Пры ўдзеле Казіміра Мядзёлкі ў 1927 годзе мясцовыя жыхары дамагліся вывучэння беларускай мовы як прадмета ў Шаркаўшчынскай школе.

Кс. Зянона Якуця часта запрашалі на ўрачыстасці святары з суседніх парафій. Сярод іншага, захаваліся згадкі, што ў 1923 г. ён прапаведаваў па-беларуску ў Германавічах і Лужках. *“Аб гэтым Якуцю прыйшоў да мяне розгалас, што ён – беларус і што чалавек дзейны, добры прамоўца, спавядальнік і г. д. – усё самае найлепшае. Добра! Я-ж гэта – дай – запрасіў яго летам на фэст, а ён – шусь – і прыехаў да мяне. Аказалася, што слава яго ня была пустая: ён сказаў такое казанне па-беларуску, што на доўга засталося ў людзей у памяці. Дый спавядаў людзей працавіта і падчас абеду быў весялун, што ўсім дапаў да сэрца”,* – пісаў кс. Язэп Германовіч, пробашч у Лужках у 1921-1924 гг і беларускі пісьменнік, які пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны. *“Яго казаньні ў касьцеле ў нашай жывой беларускай мове былі праўдзівым бальсамам для набалеўшай душы беларускай. Яго прыклады жыцьцёвыя пераходзілі з хаты да хаты, па далёкіх вёсках і парафіях Дзісенскага павету. Беларускія навукі гаворацца тут толькі на фэстах, і то аж па нешпары; але народ чакае. Навет, найдалейшыя чакаюць, бо “будзець навука панашаму”, бо “ксёндз шаркаўскі будзець гаварыць”,* – пісаў кс. Германовіч пасля смерці кс. Якуця.



Рынак у Шаркаўшчыне і касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Нечакана ў канцы 1923 года кс. Зянон Якуць моцна захварэў. Кс. Францішак Рамэйка, пробашч з Задарожжа, паехаў адведаць хворага калегу і дапамагчы яму на парафіі. Яму давялося ўдзяліць кс. Якуцю апошнія сакраманты, а таксама арганізоўваць ягонае пахаванне. 9 студзеня 1924 года святар памёр. На пахаванне сабраліся адзінаццаць каталіцкіх святароў і двое праваслаўных, а таксама тысячы вернікаў. У час Імшы казанне па-польску прамовіў кс. Ільдэфонс Бобіч, пробашч з Германавічаў, а пасля Імшы па-беларуску – кс. Язэп Германовіч. Гэта было апошняе казанне па-беларуску ў Шаркаўшчыне аж да 1990-х гадоў. Паэт Казімір Сваяк (кс. Канстанты Стэповіч) адгукнуўся на смерць кс. Якуця вершам, які надрукавала віленская газета “Krynica”. Кс. Адам Станкевіч напісаў у “Krynicy” ўспамін пра кс. Якуця: *“Гэта быў праўдзівы духоўнік, праўдзівы слуга Хрыстуса. Не кланяўся ён і не плашчыўся прад сільнымі і багатымі, гнеў іхны не страшны для яго быў; нябожчык быў праўдзівым апосталам праўды, шчырасьці, чыстасьці сумленьня. Маючы прад сабой блізу выключна беларусаў, кс. Зянон, як праўдзівы апостал, разглашаў навуку Хрыстуса перавdescribed ў роднай мове сваіх бедных слухачоў. Глыбока разумеў Кс. З. важнасьць беларускага адраджэньня, цаніў яго і прыкладаў да справы роднай усе свае сілы.*

*Нязвычайна высока стаяў сьв. п. Кс. З. і як чалавек. Ня лёгка апісаць характар ягоны, бо людзей такіх мала ёсьць на сьвеце. Ён заўсёды быў вясёлы, здаецца ніякая хмарынка ніколі не пакрывала чала яго, быў добры і ўслужны, ніколі не зацямніўся гневам добры твар ягоны; ён быў суровы да сябе самога, а мяккі і мілы для другіх; ён быў вольны ад прагавітасьці багацьця, ад срэбралюбства; ня знайдзецца чалавек, які закіне яму гэта. Няведама, што вышэй было ў асобе Кс. З.: яго пастырства духоўнае, яго беларускасьць, ці яго важкасьць, як чалавека. Усе гэтыя тры ўласнасьці нябожчыка станавілі адзін суцэльны, адзін ідэальны, адзін нязвычайны характар”.*

У кс. Якуця засталася старая маці. Яна мела восем дзяцей і ўсіх пахавала – кс. Зянон быў апошнім. На магіле святара стаіць добры помнік з каменю ў выглядзе кнігі. “Памяць ад смуткуючай маці і парафіянаў”, – напісана на аснове помніка. Маці святара, Юзэфа Якуць, пахаваная побач.

***Кастусь Шыталь***

*Аўтар выказвае падзяку Руслану Чатырку за апрацоўку фота пры дапамозе нейрасеткі.*







Прыміцыйны абразок кс. Зянона Якуця






Магіла кс. Зянона Якуця ў Шаркаўшчыне.
*Фота Алены Паўлоўскай*

*Казімір Сваяк*

## На сьмерць коллегі Кс. З. Якуця

О, Браце мой у долі і нядолі!
Паверыў я, што лёг ты ў магілу,
Бо-ж сумна так стагнаў твой дух ад болі,
Што твой народ згубіў айчыну мілу...

Так верыў ты, што час свабодны прыйдзе,
Дух Божы ўвыш народ з працьмы падойме,
Нячыстага аддасьць навек агідзе,
Нас зорам дабраты адвечнае абойме –

Любіў народ ты, Браце, сэрцам цэлым
І зразумеў яго бяду духову;
Вучыў яго, ад горачы збалелы,
Каб уміраць і жыць заўсёды быў гатовы.

Ты адышоў, згарэўшы як афяра,
За наш народ, – за вечную ідэю
Яго душы: пражыцці не як мара
На сьвеце бед, а мець надзею

Здабыць той зьніч з грудзей самога Бога,
Што шчасьце дасьць жывому чалавеку...
Ах, цяжкая туды, Браток, дарога, –
Хоць значана нам Божанькай спрадвеку.

Агонь ты нёс і сьветачам быў зорным,
Гарэў пламенна цэлаю істотай, –
Прад Богам быў і кволы і пакорны,
Людзям служыў з анельскаю ахвотай.

О, будзь шчасьліў!.. Бо ты жывеш – я веру,
Хоць пад дзярном галоўка супачыла...
І я сабе магілу ўжо адмеру,
Ах, бо мяне знямога асіліла.

# "Скаргі і паклёпы вядуць да напружання ў грамадстве".

## Пытаннем, ці званіць званам у касцёле, займаецца пракуратура.

**Трое жыхароў Ляхавічаў ініцыявалі кампанію супраць гучання званоў мясцовага касцёла, пад калектыўнай скаргай прымушаюць ставіць подпісы. Некаторыя нават абвінавачваюць парафію ў "распальванні міжканфесійнай варожасці" звонам званоў, у той час як у бок саміх вернікаў дасылаюць абразы.**

У нядаўна адроджанай у Ляхавічах каталіцкай парафіі святога Юзафа ўзніклі нечаканыя клопаты: тром жыхарам райцэнтра не спадабалася гучанне ўсталяванай у касцёле сістэмы электронных званоў, і яны ініцыявалі кампанію супраць працы сістэмы. "Пачаліся пастаянныя скаргі ў розныя інстанцыі, паклёпы, падман, што вядзе да напружання ў грамадстве", – гаворыць Katolik.life парафіяне. Цяпер ім даводзіцца займацца перапіскамі з дзяржорганамі, каб адстаяць званы, а рабочы перыядычна выклікаюць у райвыканкам.

Раней званы ў храме не гучалі, але пасля таго, як біскуп Пінскі звярнуўся з пастырскім лістом, у якім падкрэсліў важную ролю касцельных званоў і заахвоціў парафіі да іх аднаўлення, вернікі Ляхавічаў вырашылі ўсталяваць у касцёле электронную сістэму, бо на класічныя званы не хапала сродкаў.

Сістэму набылі і ўсталявалі. Паводле рашэння, прынятага на агульным сходзе парафіі, і касцельнай традыцыі, а 8-й гадзіне стала гучаць мелодыя, якая ўводзіць у курс літургічнага дня (1-2 хвіліны), а 12-й гадзіне – звон званоў, які заклікае да малітвы за памерлых "Анёл Панскі" (да 3 хвілін), а 21-й гадзіне – мелодыя з заклікам да малітвы праз заступніцтва Божай Маці (да 2 хвілін). Таксама званы гучаць за паўгадзіны да святой Імшы (каля 3 хвілін). Такім чынам за ўвесь дзень сістэма званоў працуе максімальна 10 хвілін.

Аднак гэта не спадабалася тром жыхарам райцэнтра, распавялі ў парафіі. Яны пачалі пісаць скаргі, у тым ліку – у мясцовую пракуратуру. Адным са скаржнікаў аказаўся супрацоўнік адміністрацыі раённай лякарні. Паводле парафіянаў, ён прымушаў падначаленых падпісваца пад калектыўным зваротам пра тое, што касцельныя званы быццам бы перашкаджаюць працы медыкаў.

"Сярод персаналу лякарні нямала католікаў, і калі яны казалі, што званы ім не замінаюць і адмаўляліся падпісваць скаргу, начальнік абзываў іх "пшэчкамі" [абразлівае слова ў дачыненні да палякаў]. У адной са скаргаў парафію вінавацяць у тым, што звонам званоў яна быццам бы "распальвае міжканфесійную варожасць". А хіба не наадварот: такія абразы і лаянкі ў бок католікаў ці не распальваюць тую самую міжканфесійную варожасць?" – задаюцца пытаннем у парафіі.

У снежні 2023 года раённы Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі выканаў замеры ўзроўню шуму ад гукавой сістэмы касцёла і паведаміў парафіі, што ў некаторых кабінетах і палатах лякарні ўзровень нязначна перавышае ўсталяваныя законам нормы. Тады запатрабавалі панізіць гук сістэмы.

Аднак у парафіі ўказваюць на неправамернасць такога патрабавання, бо паводле закону гігіенічны нарматыў не распаўсюджваецца на шум, абумоўлены правядзеннем набажэнстваў і іншых рэлігійных абрадаў і цырымоній у межах кананічных патрабаванняў канфесій.

У сувязі з гэтым патрабаванне Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў парафіі лічаць парушэннем Канстытуцыі і абмежаваннем правоў вернікаў. Таму парафія таксама падрыхтавала зварот у раённую пракуратуру з просьбай адняць законнасць і абараніць правы мясцовых вернікаў.

"Нават нягледзячы на незаконнасць патрабаванняў, гук сістэмы рабілі ніжэйшым ужо тройчы. Аднак скаржнікаў гэта не задавальняе. Некаторыя патрабуюць зрабіць яшчэ цішэй, хтосьці – увогуле выключыць. Калі яшчэ болей панізіць гук, то званы ўвогуле трацяць сэнс", – тлумачаць у парафіі.

Вернікі падкрэсліваюць, што адна з функцый касцельнага звона – экзарцызм, выгнанне злога духа. Таму мяркуюць, што паўстанне супраць званоў магло стаць наступствам такога экзарцызму: "Гук званоў ад даўніх часоў выконвае велізарную місію. Малітва, якая нагадвае чалавеку, што ў горадзе ёсць святыня, заклікае да сумлення асобы, дае надзею тым, хто хварэе, выганяе злога духа. І, відаць, менавіта апошнюю функцыю нашы званы выконваюць на выдатна. Замест таго, каб узрадавацца, што знішчаны Саветамі касцёл адрэстаўраваны і нарэшце атрымаў "голас", некаторыя людзі паддаюцца намаўленню д'ябла. Зараз пытаннем займаецца пракуратура. Мы некалькі разоў прасілі пробашча дазволіць нам напісаць калектыўны зварот да ўпаўнаважанага па справах рэлігіі, але ён не згаджаўся, кажучы, што не трэба раздзімаць з гэтага канфлікт, а назіраць, як зло есць само сябе".

Таксама парафіяне прадставілі шэраг станоўчых водгукаў, напрыклад: "Я працую ў паліклініцы, што побач з касцёлам. Першы час было нязвыкла, затое цяпер, як толькі чуем а 8-й гадзіне раніцы званы, пачынаем прыём пацыентаў. Пачатак працоўнага дня".

"Некаторыя нашы хворыя, як толькі чуюць званы ці гук мелодыі, каторая даносіцца з боку касцёла, адразу падыходзяць да акна, каб памаліцца. Нават пэўныя працэдуры для іх пераносім на пазней".

"Я лячылася ў стацыянары. Кожны раз, калі чула гук званоў, пачынала маліцца. Я сама праваслаўная, але Бог адзін".

*katolik.life*



# “Усеагульныя, непарушныя і неад’емныя”.

## Як Касцёл укараняў правы чалавека

**Тэма правоў чалавека часта ўспрымаецца як неўласцівая каталіцтву. З такім поглядам часам пагаджаюцца як праціўнікі Касцёла, так і зацятыя яго апалагеты з традыцыяналісцкага лагеру. Тым не менш, цягам усёй гісторыі Касцёл не толькі не цураўся гэтай тэмы, але і, наадварот, усяляк прасоўваў яе ў грамадска-палітычнае жыццё.**

Важнасць таго, што можна цяпер акрэсліць як правы чалавека, для першых хрысціянаў паходзіла з біблійнай гісторыі стварэння свету, калі Бог стварыў чалавека на свае вобраз і падабенства. З запавету “пладзіцеся і множцеся” выводзілася права чалавека на сям'ю, а з указання Бога чалавеку апрацоўваць зямлю і ў працы здабываць сабе пражытак – права на працу, беражлівае і годнае жыццё. Абараняў чалавечую годнасць і прыклад Езуса, Які служыў Сам і заклікаў служыць іншым, у тым ліку адкінутым грамадствам, хворым, бедным ці зняволеным.

Важнымі ў станаўленні хрысціянскага погляду на правы чалавека былі таксама рымскія законы і грэцкая філасофія, да якіх у сваёй дзейнасці і пасланнях звяртаўся, напрыклад, рымскі грамадзянін – апостал Павел. Са спалучэння трох гэтых кампанентаў, з аднаго боку, узнікала разуменне, што паганцы таксама здольныя спасцігаць Бога, а з іншага, напрыклад, фарміраваліся хрысціянскія ўяўленні пра правы ўласнікаў. Важнасць свабоды сумлення прасочвацца ўжо ў Міланскім эдыкце 313 года, калі імператар Канстанцін легалізаваў хрысціянства і дазволіў іншым вызнаваць сваю веру “на ўласны выбар”.

У сваю чаргу святы Аўгусцін у сваіх творах падкрэсліваў, што закон вечны больш справядлівы і вышэйшы за законы зямныя. Дзяржава ж, паводле яго, якая не заснаваная на ідэях справядлівасці, ператвараецца ў “разбойніцкую шайку”.



Помнік Антоньё дэ Мантэсінасу ў Санта-Дамінга (Дамініканская Рэспубліка)

### З тэорыі ў практыку

З часам хрысціянскія ідэі сталі набываць моц законаў і наўпрост уплываць на рэчаіснасць.

**Так, у V стагоддзі былі забароненыя гладыятарскія баі, а ў 873 годзе Папа Ян VIII асудзіў заняволенне ў рабства іншых хрысціянаў і запатрабаваў вызваліць іх.**

У XI–XII стагоддзях папская ўлада здолела абараніць сваю самастойнасць у змаганні з нямецкімі імператарамі. Гэта дало новы штуршок развіццю каталіцкага вучэння адносна правоў чалавека. Напрыклад, святы Тамаш Аквінскі аспрэчваў думкі, што толькі дзяржава вызначае правы сваіх падданых. Паводле яго, у пытаннях, што датычаць духоўных каштоўнасцяў, дзяржава не мае ўлады, бо “дабрабыт душы не падпарадкаваны палітычнай супольнасці”. Увогуле святы заклікаў манархаў улічваць інтарэсы розных груп насельніцтва.

Заступаліся каталікі і за правы людзей іншых канфесіяў. Гэтак, Папа Інацэнт IV пастанавіў, што права на ўласнасць маюць і людзі іншых вызнанняў, бо яна створаная “не для вернікаў, а для ўсіх разумных стварэнняў”. Забараніў ён і спаленне габрэйскага Талмуду.

Незалежнасць Касцёла ад свецкіх уладаў дазваляла яго прадстаўнікам дзейнічаць, зыходзячы з духоўных, а не з эканамічных ці палітычных патрэбаў. У прыватнасці, падчас іспанскай каланізацыі Амерыкі менавіта каталіцкія манахі абаранялі індзейцаў ад эксплуатацыі з боку каланізатараў.

“Скажыце мне, па якім праве і па якой справядлівасці вы так жорстка занявольваеце гэтых індзейцаў? Якім аўтарытэтам вы ведзяце такія жудасныя войны супраць гэтых людзей, што мірна насяляюць свае землі, забіваючы іх невымоўнымі спосабамі? Як вы можаце прыгнятаць іх, не даючы ні ежы, ні лекаў, і заганяючы іх да смерці, і ўсё гэта дзеля сваёй ненаеднай прагі золата? І які духоўны клопат вы аказваеце ім, ці расказваеце ім пра іх Бога і Творцу, каб яны хрысціліся, слухалі імшу і захоўвалі святыя дні? Няўжо яны не людзі? Няўжо ў іх няма разумнай душы? Няўжо вы не абавязаныя любіць іх, як любіце сябе?” – звяртаўся дамініканін Антоньё дэ Мантэсінас да іспанцаў.

У выніку Папа Павел III у 1537 годзе асудзіў рабства ды прызнаў годнасць кожнага чалавека і яго права на свабоду і ўласнасць незалежна ад расы, нацыянальнасці або рэлігіі. Ён таксама перасцярог перад шатанам і яго спадарожнікамі, пропаведзь якіх адмаўляе роўнасць і натуральную свабоду.



Леон XIII

### Станаўленне сацыяльнага вучэння

Новы этап развіцця каталіцкага вучэння аб правах чалавека пачаўся ў XIX стагоддзі, калі свет сутыкнуўся са значнымі зменамі ў выніку паскоранай індустрыялізацыі. Каталіцкія вернікі і святары спрабавалі вырашаць пытанні праз дабрачыннасць і асобныя заканадаўчыя ініцыятывы. Дзеля гэтага ў Еўропе і Амерыцы сталі масава ўзнікаць каталіцкія партыі, дабрачынныя арганізацыі і аб’яднанні, якія неўзабаве атрымалі тэарэтычнае абгрунтаванне.

У сваіх энцыкліках, як “Immortale Dei” ці “Rerum Novarum”, Папа Леон XIII, асуджаючы “сацыялізм, камунізм і нігілізм”, акрэсліў стасункі Касцёла і дзяржавы ды прапанаваў сваё бачанне развязання працоўнага пытання. Папа абгрунтоўваў, што без веры і рэлігіі немагчымыя чалавечыя свабоды. Роўнасць людзей, паводле яго, заключаецца “ў тым факце, што ўсе, маючы адзіную прыроду, пакліканы да той самай высокай годнасці дзяцей Божых”, а значыць, і судзіць іх трэба “па адзіным для ўсіх законе”.

Папа падкрэсліваў, што “чалавек стаіць па-над дзяржавай”, што багатыя і бедныя, капіталісты і працаўнікі маюць узаемныя абавязкі і правы. У прыватнасці, Леон XIII абвяшчаў, што работнікі маюць права на справядлівы заробак і маёмасць і нават аб’ядноўвацца для абароны сваіх справядлівых патрабаванняў. Таксама ён акрэсліваў сферы, як, да прыкладу, сям’я, куды дзяржава не мае права ўмешвацца.

Пій XI у 1937 годзе выклаў свой спіс правоў: “права на жыццё, на цялесную недатыкальнасць, на неабходныя сродкі існавання; права імкнуцца да сваёй канчатковай мэты на шляху, указаным Богам; права на аб’яднанне і права валодаць і карыстацца ўласнасцю”. А яго пераемнік Пій XII сцвярджаў, што кожны чалавек мае права на ўрад, які будзе абараняць яго правы і абмяжоўвацца імі. А да іх спісу ён дадаў: права на існаванне, на добрае імя, на ўласную культуру і нацыянальны характар, на самаразвіццё, права патрабаваць выканання міжнародных дамоваў.



Святы Мікалай ратуе невінаватых ад смерці. *Карціна Іллі Рэпіна.*

### Правы чалавека і Другі Ватыканскі сабор

Значнай падзеяй на шляху станаўлення вучэння Касцёла пра правы чалавека быў Другі Ватыканскі сабор 1962 – 1965 гадоў. Ён прызнаў, што “ўсе людзі павінны быць абароненыя ад прымусу з боку пэўных асобаў ці сацыяльных групаў і любой чалавечай сілы такім чынам, каб нікога нельга было прымушаць дзейнічаць спосабам, які супярэчыць яго ўласным перакананням, канфідэнцыйна ці публічна, самастойна або сумесна з іншымі”.

Таксама падкрэслівалася, што, нягледзячы на грахоўнасць, чалавечая годнасць “пераўзыходзіць усё, а яе правы і абавязкі з’яўляюцца ўсеагульнымі і недатыкальнымі”. Таксама адзначалася неабходнасць гарантаваць людзям права на ежу, адзенне, жыллё, стварэнне сям’і, на працу, павагу, свабоду сумлення і права дзейнічаць паводле яго, на прыватнасць.

У сваёй энцыкліцы “Pacem in Terris” Папа Ян XXIII акцэнтаваў увагу на абароне права на жыццё кожнага чалавека, незалежна ад яго нацыянальнасці ці рэлігіі. Таксама ён абвясціў, каб кожная дзяржава ўключыла ў Канстытуцыю асноўныя правы чалавека. А яго пераемнік Павел VI заклікаў да ратыфікацыі і поўнага выканання ўсімі ўрадамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. А Ян Павел II называў яе “сапраўднай вяхой на шляху маральнага прагрэсу чалавецтва”.

**Дарэчы, сярод аўтараў праекту гэтай дэкларацыі быў выбітны каталіцкі багаслоў XX стагоддзя Жак Марытэн.**

Ян Павел II заклікаў глядзець на грамадства толькі праз прызму асобы. Крыніцай жа гэтых правоў чалавека ён называў рэлігійную свабоду.

У 2004 годзе на падставе ранейшых дакументаў быў складзены Кампендый сацыяльнага вучэння Касцёла. Ён падкрэслівае, што “сапраўдная крыніца правоў чалавека знаходзіцца не ў волі людзей, не ў дзяржаве, не ў грамадскіх уладаў, а ў самім чалавеку і ў Богу, яго Стваральніку. Гэтыя правы – “усеагульныя, непарушныя і неад’емныя”.

“Усеагульныя, таму што яны ўласцівыя ўсім людзям, незалежна ад часу, месца і суб’екта. Непарушныя, паколькі “адносяцца да чалавечай асобы і яе годнасці”, і “дарэмным было б абвяшчэнне правоў, калі б адначасова не прыкладваліся б усякія старанні гарантаваць іх належнае захаванне ўсімі, усюды і ў адносінах да кожнага”. Неад’емныя, паколькі “ніхто не можа на падставе закону пазбавіць іншага чалавека гэтых правоў, кім бы ён ні быў, бо гэта было б гвалтам яго сутнасці”, – абвяшчае Кампендый.

Пры гэтым Святыя Айцы таксама крытыкавалі спробы прынізіць важнасць правоў чалавека. “Касцёл пачуваецца абражаным кожны раз, калі правы чалавека ігнаруюцца ці парушаюцца, чые б яны ні былі і пра што б не ішла гаворка”, – пісаў Генеральнаму сакратару ААН Папа Павел VI.

Занепакоенасць тым, што некаторыя ўрады адмаўляюць універсальнасць правоў чалавека, выказвалі таксама Ян Павел II і Бэнэдыкт XVI. Тое, што “шмат у якіх частках свету няма канца сур’ёзным парушэнням фундаментальных правоў чалавека, асабліва права на жыццё і права на свабоду веравызнання”, прызнаваў і Папа Францішак.

“Годнасць чалавечай асобы і агульнае дабро стаяць вышэй за камфорт тых, хто не хоча адмовіцца ад сваіх прывілеяў”, – вучыць Святы Айцец у “Evangelii Gaudium”. І заклікае “ўзвысіць прароцкі голас”, калі гэтыя каштоўнасці знаходзяцца пад пагрозай.

*Мечыслаў Гапановіч*

# "Але найбольшая з іх – любоў". Сям'я Кісель: хвароба, вера і каханне

**Для многіх з нас крыж атаясамліваецца з цярпеннем, болем, выпрабаваннямі, цяжкасцямі. Аднак крыж гэта не толькі пра цярпенне, але яшчэ і пра любоў, ахвярную і чыстую. Езус, паміраючы на крыжы, не толькі цярпеў невымерны боль, але яшчэ і адчуваў бясконцую любоў да чалавека.**

У жыцці кожнай асобы ёсць пэўны крыж: хваробы, непрыняцця, адкінутасці, беднасці, чакання. Гэты пералік можна працягваць бясконца. Хтосьці з пакорай і верай нясе свой крыж, кагосьці ён прыціскае да зямлі. Аднак, адорваючы чалавека крыжам, Бог не жадае зламаць або выпрабаваць сваё стварэнне. Нябесны Айцец хоча чамусьці навучыць, бо цярпенне – гэта таксама дар ад Бога, а ў пэўных момантах і выратаванне.

Дзяніс і Дзіяна Кісель – звычайная пара закаханых. Падаецца, яны не адрозніваюцца ад дзясяткаў іншых пар. Аднак у свой час маладой сям'і давялося перажыць складанае выпрабаванне, якое іх не зламала, а зрабіла больш моцнымі і згуртаванымі.

...Велікодная ноч. Рэанімабіль рухаецца ў напрамку Гродна. Дзіяна знаходзіцца ў непрытомнасці. Жыццё маладой жанчыны і яе ненароджанай дачкі пад пагрозай. Ззаду на сваім аўто едзе яе муж Дзяніс. Мужчына перажывае, а ў думках размаўляе са сваёй любай жонкай: "Дзіяначка, ты толькі трымайся! Усё будзе добра. Чуеш?" Аднак Дзіяна не чуе.

Ажаніўшыся, Дзяніс і Дзіяна вельмі чакалі патомства. Прыемная навіна не прымусіла доўга чакаць: у хуткім часе Дзіяна зацяжарыла. Праз некаторы час у жанчыны пачала падымацца тэмпература. Антыбіётыкі не дапамагалі, аднак даследаванні ніякіх адхіленняў не паказвалі. На дваццатым тыдні жанчыне выдалілі апендыкс, але стан яе здароўя ўсё роўна пагаршаўся. Як выявілася пазней, прычынай гэтага стала заціснутая плодам двайная нырка Дзіяны.

Прыехаўшы ў шпіталь, мужчына чакаў нейкай інфармацыі. Яго трэсла ад адной думкі, што яго любая зараз у рэанімацыі і ёсць рэальная пагроза яе жыццю. Да жонкі мужчыну не пусцілі, аднак ён увесь час дзяжурыў ля вокнаў палаты. Страх за жыццё каханай сціскаў яго сэрца. А ў глыбіні душы Дзяніс абвінавачваў сябе, што не дагледзеў жонку, чагосьці не заўважыў.

Мужчына вярнуўся ў родны Астравец, каб сабраць рэчы. Калі ён толькі пераступіў парог дома, застаўся сам-насам са сваімі перажываннямі, яго сэрца ахапілі невымерныя боль і туга. Ён сабраў усе абразы, якія былі ў доме, упаў на калені і голасна маліўся. А раніцай пайшоў у свой парафіяльны касцёл, дзе зусім нядаўна шчаслівыя і закаханыя Дзяніс і Дзіяна бралі шлюб.

> **Мужчына пракручваў у галаве шлюбную клятву: "Прысягаю табе любоў, вернасць і сужэнскую павагу, і тое, што не пакіну цябе аж да смерці".**

Гэтыя словы цяпер успрымаліся вельмі блізка і шчымліва. Пасля Імшы малады чалавек пайшоў да пробашча, расказаў сваю гісторыю і папрасіў аб малітве. Душпастыр выслухаў аповед, знайшоў патрэбныя словы, каб падтрымаць. А пасля пачалася няспынная малітва за Дзіяну і яе дзіця. Да малітвы далучыліся родныя, блізкія, сябры, знаёмыя і незнаёмыя людзі, якіх узрушыла гісторыя сям'і. Бацькі нястомна запісвалі Імшы за жанчыну, ахвяроўвалі шматлікія малітвы.

Дзяніс вярнуўся ў Гродна. Ён вырашыў, што не пакіне жонку адну. А ў Астравец сям'я вернецца толькі разам. Праз шкло мужчына назіраў за сваёй каханай. Маленькая і безабаронная, падключаная да шматлікіх прыбораў і апаратаў... У гэты час мужчына адчуў, як моцна ён любіць сваю жонку і як баіцца яе страціць. Дзяніс пакідаў каханую толькі вечарам, каб пайсці памаліцца ў фарны касцёл. Тут, ля алтара, вылівалася ўсё: боль, туга, роспач.

Прыйшоўшы чарговым вечарам у касцёл, Дзяніс вырашыў пагутарыць са святаром. Ксёндз аказаўся земляком сужэнцаў, яго вельмі ўзрушыла гісторыя маладой сям'і. Ён абяцаў нястомна маліцца за здароўе жанчыны і ненароджанага дзіцяці. У касцельнай краме мужчына купіў невялікі абразок, які пасля медыцынскія сёстры прыладзілі каля ложка хворай.

Нястомная малітва родных і блізкіх, іх вера і нязломная надзея зрабілі сапраўдны цуд: з'явіліся першыя прыкметы паляпшэння. Жыццё Дзіяны ўсё яшчэ залежала ад апаратаў, бо яна дыхала і харчавалася з дапамогай спецыяльных трубак. Але жанчына пачала маленькімі крокамі ісці да выздараўлення.

– З цягам часу да мяне пачалі пускаць родных, але я жыла ў сваёй рэальнасці. Мне падавалася, што муж і бацькі прыходзяць да мяне праз дзірку ў сцяне. Такі эфект аказвалі моцныя лекі. Яны ж пазбаўлялі мяне болю. Я з нецярпеннем чакала сустрэчы з мужам, стукала лыжкай па тумбе, што знаходзілася ля майго ложка, каб выклікаць медыцынскую сястру і даведацца, ці хутка прыйдзе Дзяніс. Калі я пайшла на папраўку, муж прымушаў есці, сядзець, рабіць некалькі крокаў па палаце. Дзяніс – гэта той мужчына, якога мне паслаў Бог. Ён не пакідаў мяне ні на хвіліну, не даваў упасці духам, зламацца, расчаравацца, – адзначае Дзіяна Кісель.

Нарэшце Дзіяну перавялі ў звычайную палату. Падавалася, што хутка ўсё скончыцца, маладая сям'я вернецца дамоў. Аднак раптоўна ў жанчыны перасталі працаваць ныркі, патрэбная была чарговая аперацыя. Дзянісу цяжка было стрымаць свае перажыванні. Пры жонцы ён не дазваляў сабе ўпадаць у роспач, паказваць сваю прыгнечанасць. Але гэта навіна выбіла мужчыну з каляіны. Колькі яшчэ? Чаму яна? Гэтыя пытанні малады чалавек перакручваў у галаве, але не знаходзіў адказу. Па твары ліліся слёзы бездапаможнасці і бяссілля. Але мужчына не траціў надзеі, ён працягваў усміхацца і жартаваць з Дзіянай, падбадзёрваць і падтрымліваць яе.



> **Аднойчы Дзіяна спытала ў мужа: "Чаму Бог не дапамагае мне?" На гэтае пытанне мужчына даў вельмі мудры адказ: "Дзіяначка, Ён побач. Ён нясе цябе на руках.**

Усе выпрабаванні нам дадзеныя для нечага. Разам мы ўсё пераадолеем".

Аперацыя прайшла паспяхова. У хуткім часе Дзіяну перавялі ў звычайную палату. Дзяніс меў магчымасць знаходзіцца побач з жонкай 24 гадзіны ў суткі. Калі ўрачы дазволілі Дзіяне выходзіць на двор, Дзяніс забіраў яе, вазіў у кавярні і крамы. Разам яны выбіралі адзенне і цацкі для дачушкі, будавалі планы на шчаслівую будучыню. Дзяніс стаў для Дзіяны самым эфектыўным лекам. Гэта адзначылі нават урачы. Калі Дзіяна хварэла, Дзяніс паабяцаў сабе кінуць курыць, а замест цыгарэт купляць кветкі для сваёй любай. Свой абет мужчына стрымаў.

"Ты моцная. У 90% выпадкаў людзі з такімі захворваннямі паміраюць," – адзначыў урач, калі выпісваў Дзіяну. Жанчына толькі ўсміхнулася доктару. Яна ведала, што за яе перамогай стаіць шмат людзей, іх шчырыя малітвы і просьбы. Менавіта блізкія вымалілі здароўе для Дзіяны, яны нястомна перажывалі, падтрымлівалі яе і не давалі зламацца і апусціць рукі.

За час хваробы Дзіяне давялося прайсці безліч працэдур, яна прымала моцныя лекі, таму жанчына вельмі перажывала за сваю дачушку, яе здароўе і развіццё. Сумныя думкі заганялі яе ў дэпрэсію. З такім станам не дапамагалі справіцца ні псіхолагі, ні таблеткі. Тады жанчына пайшла да пробашча парафіі Узвышэння Святога Крыжа ксяндза Андрэя. Са слязамі на вачах яна расказала яму пра свае перажыванні і страхі. Ксёндз супакоіў яе, а яго мудрыя словы суцешылі і падарылі надзею на лепшае і ўпэўненасць у тым, што Бог не пакіне. Ён будзе побач. Так яно і адбылося. Дачушка Евачка нарадзілася васьмімесячнай. Аднак, як і мама, вельмі моцнай. Дзяўчынка пачала дыхаць сама, а любоў і апека бацькоў спрыялі яе хуткаму развіццю.

З таго часу прайшло доўгіх дзевяць гадоў. Ева стала школьніцай – дарослай і самастойнай дзяўчынкай. Яна вельмі падобная да таты, дачушка падабрала ўсе яго рысачкі. Няўрымслівая і ўсмешлівая, яна цікавіцца ўсім на свеце. Кожную нядзелю разам з бацькамі Ева ходзіць у касцёл, моліцца і спявае. Бацькі цешацца, гледзячы на сваю дачушку, а час ад часу прыгадваюць той крыж, які ім давялося ўзяць на свае плечы дзевяць гадоў таму. Муж і жонка разумеюць, што тое выпрабаванне загартавала іх, зрабіла больш моцнымі, навучыла па-сапраўднаму любіць і давяраць Усемагутнаму Айцу, яшчэ мацней распаліла любоў у сэрцах маладых людзей. Разам яны часта звяртаюцца да Гімна любові святога апостала Паўла і разумеюць, што любоў ніколі не мінае...



***Марта Венслававіч.***
*Фота з архіва сям'і Кісель.*

# Думаеш, куды паехаць на выхадныя? Да Маці Божай!

**Калі праглядаеш сацсеткі ініцыятывы "Weekend з Марыяй", то іх лаканічнасць і ўчэпістасць прыемна здзіўляюць: глыбокія сэнсы падаюцца ў так запатрабаванай сёння стылёвай форме. Свежы падыход да справы дае свой плён. За год існавання "ўікэнд" перарос з парафіяльных сустрэч ва ўсебеларускія дні духоўнага аднаўлення і мае тэндэнцыю, каб стаць моладзевым душпастырствам мясцовага Касцёла.**

**Ангеліна Марцішэўская**

*"Неяк пасля пакутніцкай пілігрымкі ў Браслаў мы зразумелі, што нам хочацца збірацца часцей. Рэкалекцыі, якія праводзілі айцы-францішкане некалькі разоў у год, нам стала недастаткова,* – прызнаюцца аніматары Павел і Максімільян з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Удзеле. – *Нас было чалавек дзесяць, студэнты, і мы пачалі думаць, што б арганізаваць".*

Каб спатканне мела падмурак і адпаведную фармацыю, моладзь стала збірацца кожную першую суботу месяца, калі праводзяцца адмысловыя набажэнствы ўшанавання Маці Божай. *"Дзеля падбудавання суботы, які назвалі днём засяроджанасці, мы вырашылі расцягнуць духоўныя практыкаванні з пятніцы да нядзелі і змяніць назву: папярэдняя была не вельмі адпаведная",* – дадае а. Віктар, арганізатар ініцыятывы.

Такім чынам паўстаў "Weekend з Марыяй", асноўная мэта якога навучыць вернікаў даручаць усе свае турботы Найсвяцейшай Панне і праз гэта станавіцца шчаслівымі. *"Падчас сустрэчаў няма прасторы, каб "патусіць па-свецку". Гэта не евангелізацыйны праект, а асяродак для хрысціянаў, якія стаміліся ў свеце і шукаюць сабе паплечнікаў",* – падкрэслівае суразмоўца.

Першыя дні духоўнага аднаўлення сабралі дваццаць чалавек, якія ведалі адно аднаго. А ўжо наступныя адкрывалі дзверы некалькім дзясяткам католікаў з усіх дыяцэзій. *"Мы не рабілі аніякай спецыяльнай рэкламы сустрэчы. Проста калі чалавек адчуе сувязь з Марыяй і сямейны клімат, – ён гэтым дзеліцца. Так пра нас і сталі даведвацца",* – адзначае айцец-францішканін.

"Weekend з Марыяй" мае моцна насычаную праграму: можна пабыць сам-насам з Богам у "пустыні" і правесці час актыўна, паслухаць канферэнцыі і паўдзельнічаць у развážаннях. Падчас сустрэчаў закранаюцца разнастайныя і важныя пытанні – ад пабудовы адносінаў да духоўных пагрозаў, але цэнтральнай тэматыкай часцей за ўсё з'яўляецца марыйная. Удзельнікі ці то прыглядаюцца цнотам Мадонны, ці то засяроджваюцца на звязаных з Ёй дагматах, ці то разважаюць над пяццю знявагамі Беззаганага Сэрца Нябеснай Маці і перапрашаюць яго.

*"Молімся Ружанец у розных формах. Аднойчы праводзілі яго ў выглядзе квэсту. Падзялілі ўдзельнікаў на каманды адпаведна кожнай часткі і адправілі іх "лётаць" па тэрыторыі – выконваць заданні. Зразумела, на кожным посце трэба было адгаварыць адну таямніцу. Такім чынам, маладзёны памаліліся ўвесь Ружанец. Навучылі іх таксама францішканскай каронцы, якая складаецца з сямі радасцяў Марыі,"* – распавядае а. Віктар.

Дні духоўнага аднаўлення адбываюцца ў Удзеле, дзе ў 2002 годзе быў заснаваны "Беларускі Непакалянаў", названы на наш манер "Мястэчкам Беззаганнай". Гэтую традыцыю распачаў св. Максімільян Кольбэ. Паводле яго думкі, месца, нарачонае "Непакалянаў", аддавалася асаблівай апецы Маці Божай і станавілася крыніцай Божых ласкаў.

*"Удзела стала пятым у свеце месцам, дзе з'явіўся "Непакалянаў". І мы бачым, як проста супрацоўнічаць з Марыяй, каб развівацца. Галоўнае – ёй не перашкаджаць",* – дадае а. Віктар.

Падчас "уікэнду" існуе магчымасць далучыцца да "Рыцарства Беззаганнай", закладзенага тым жа св. Максімільянам Кольбэ, які жадаў з дапамогай тавырыства здабываць душы для Хрыста праз Марыю. *"Кожныя дні духоўнага аднаўлення плённыя новымі ўдзельнікамі "Рыцарства Беззаганнай". Маладзёны добраахвотна аддаюцца на службу Марыі, бо хочуць ваяваць побач з Ёй найлепшай зброяй – Ружанцам. Яны афіцыйна складаюць абяцанні штодня маліцца за навяртанне грэшнікаў і ворагаў Касцёла",* – адзначае францішканін.

Паводле а. Віктара, у межах "Weekend з Марыяй" можна знайсці галоўнае, у чым развіваецца вера і асоба, – супольнасць. *"Што ты атрымаў падчас гэтых сустрэчаў?* – пытаюся ў аднаго з аніматараў. – *Ён там дзяўчыну сабе знайшоў",* – адказвае замест яго з усмешкай другі.

Хлопцы пагаджаюцца, што знайшлі ў Удзеле кампанію, у якой пабудавалі адносіны, дзе можна разлічваць на бясконцую падтрымку і трываць у адзінстве. І штомесяц як валанцёры яны прысвячаюць значную частку свайго часу, каб гэта спазналі іншыя людзі. *"Калі хтосьці даязджае з іншых дыяцэзій, мы вяртаем палову сумы за дарогу,* – адзначае а. Віктар. – *Усё пададзена на талерцы – толькі бяры".*



Спатканне разлічана на ўдзельнікаў любога ўзросту, бо "перад Богам усе дзеці". Але збольшага на "ўікэнды" з'язджаецца моладзь




Арганізатары адкрылі краму з мерчам "Weekend з Марыяй" і іншай хрысціянскай тэматыкай

***Каментары ўдзельнікаў:***



**Раман Рыбак:**

*"WM насычаны вельмі цёплымі і запамінальнымі момантамі. Асаблівым чынам мяне кранаюць хвіліны адарацыі, малітва праслаўлення, супольны спеў. Асобна трэба адзначыць "пасяджэнні мужчынскага клуба" на начлезе, калі мы з хлопцамі да глыбокай ночы абмяркоўваем надзённыя жыццёвыя пытанні. Такім чынам, дарэчы, некаторыя хлопцы далучыліся да супольнасці "Воінаў Марыі" (не блытаць з "Рыцарствам Б-+еззаганнай").*

*Да апошняга я вырашыў далучыцца з той прычыны, што разумею, якая моцная атака ідзе на веру і Касцёл у сучасным свеце. Рыцар Беззаганнай пасвячае сябе Маці Божай, становячыся інструментам для пашырэння веры ў Яе руках. У межах тавырыства мы молімся пра навяртанне ворагаў Касцёла, стараемся даступнымі для сябе сродкамі абараняць і быць прыкладам веры, а таксама ўдзельнічаць у з'ездах рэгіянальнай групы "Рыцарства Беззаганнай"".*



**Каталіна Саўць:**

*"Прыязджаючы на WM, я атрымліваю вельмі шмат увагі, любові і клопату. Чапляе тое, што першапачаткова сустракаюцца адно аднаму незнаёмыя людзі, а пад канец мы ўсе становімся роднымі.*

*Кожны "ўікэнд" унікальны. Штораз уздымаюцца тэмы, якія моцна чапляюць маё сэрца. Я заўсёды знаходжу для сябе нешта новае, што дапамагае мне змяняць мае думкі або звычкі. У гэтым і заключаецца хрысціянскае жыццё. Дзякуючы сустрэчам я адкрываю свае заганы, але разам з тым і таленты, якіх раней не заўважала. Зразумела таксама значнасць постаці Марыі, стала надаваць больш увагі зносінам з Ёй і Ружанцу."*






# Разам спяваем "Gloria"": Фестываль каляднай песні прайшоў у Мёрах

**"Хто адлучыць нас ад любові Хрыста" (Рым 8, 39). Гэтыя словы з паслання святога апостала Паўла да рымлянаў прыйшлі на думку халодным зімовым ранкам у зале мёрскага Дома культуры.**

■ **Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

4 студзеня дзеці і моладзь з розных куточкаў Віцебскай дыяцэзіі прыбылі на Фестываль каляднай песні "Зорка Бэтлеема". Нягледзячы на моцны мароз і завеяныя снегам дарогі, а таксама на далёкія адлегласці, удзельнікі з Мёраў і Браслава, Глыбокага і Варапаева, Полацка, Наваполацка і Віцебска, як і шмат гадоў запар, сабраліся разам, каб праслаўляць Езуса Хрыста – уцелаўлёную, пакорную, даскаsuccessfulную Любоў.

У гэтым годзе ўдзельнікі прадставілі свае конкурсныя творы ў двух узроставых катэгорыях: дзеці (да 13 гадоў) і моладзь.

Ацэньвала выступоўцаў журы ў складзе ксяндза Сяргея Сурыновіча з Друі, а таксама сясцёр-служабнічак з Віцебска – Люцыны Мусёл і Ёнашы Мровец.

Ганаровым госцем фестывалю стаў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч. Словамі прывітання і падбадзёрвання ён распачаў святочны канцэрт. Біскуп заўважыў, што сёння да анёльскіх хораў, якія ў нябёсах праслаўляюць Нованароджанага Хрыста, далучаюцца галасы дзяцей і моладзі – удзельнікаў фестывалю. "Я жадаю Вам поспехаў не толькі зараз, на гэтай сцэне, але і ў штодзённым жыцці," – прамовіў іерарх і ўдзяліў прысутным пастырскае бласлаўленне.

Распачалася конкурсная праграма, якая была вельмі насычанай і цікавай. Трэба адзначыць, што ўсе ўдзельнікі фестывалю рыхтаваліся да конкурсу вельмі адказна і крэатыўна. На сцэне гучалі традыцыйныя і сучасныя спевы, а таксама разнастайныя жывыя інструменты: сінтэзатар, укулеле, гітара, цымбалы, скрыпка. Кожны гурт і кожны саліст дзяліліся сваімі талентамі, ствараючы сапраўдны святочны настрой, дух каляднай казкі і праслаўлення Хрыста.

Асабліва хочацца адзначыць, што разам з выступоўцамі прыехалі з розных гарадоў і групы падтрымкі, якія не шкадавалі свaіх апладысментаў, усмешак і добрых слоў.

Пасля завяршэння конкурснай праграмы распачалася цырымонія ўзнагароджвання. Трэба сказаць, што дзякуючы дабрачыннай арганізацыі "Карытас", мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі на чале з ксяндзом-пробашчам Андрэем Куліком і курыі Віцебскай дыяцэзіі кожны ўдзельнік вяртаўся дадому з падарункам.

Завяршыўся фестываль супольным здымкам удзельнікаў з біскупам Алегам Буткевічам, а таксама смачным абедам.

На думку журы ў сваіх намінацыях найлепшымі сярод моладзі сталі:

✔ У намінацыі "Сола": Кацярына Дземідовіч (Глыбокае), Ульяна Казаровец (Варапаева).

✔ У намінацыі "Гурт": моладзь з парафіі Святой Тройцы (Глыбокае).

✔ У намінацыі "Інструментальная творчасць": Аляксандр Шамёнак з Мёраў.

Сярод дзяцей у намінацыі "Сола" найлепшымі былі: Кіра Мацкевіч (Варапаева) і Вольга Бондар (Мёры).

✔ У намінацыі "Інструментальная творчасць": Кацярына Мазынская (Наваполацк), Мар'яна Коц (Полацк), Вераніка Дашкевіч (Полацк).

✔ У намінацыі "Гурт": дзеці з парафіі Святой Тройцы (Глыбокае), дзеці з парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі (Браслаў), дзеці з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса (Наваполацк).




## На люты прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**10** лютага – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост);*

**17** лютага – імяніны адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост);*

**18** лютага – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы);*

**25** лютага – дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Віктар Сініцкі SCJ** *(Шаркаўшчына);*

**26** лютага – імяніны адзначае **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч;**

**28** лютага – імяніны адзначае **кс. Раман Мурзіч.**

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

## Гадавіна смерці святароў у лютым, якія працавалі на тэрыторыі Віцебскай дыяцэзіі:

**09.02.2019г. - † Кс. Казімір Акушка**
**24.02.2020г. - † Кс. Уладзіслаў Мруфка**

***Вечны адпачынак дай ім, Пане, а святло вечнае няхай ім свеціць. Амэн.***

# Тэст на веданне Біблii

**1 Якая кніга з Біблii апісвае фізічную барацьбу чалавека з Богам, пасля чаго Бог надае гэтаму чалавеку імя Ізраэль?**



**А.** 1 Кніга Самуэля (1 Валадарстваў)
**Б.** Кніга Быцця
**В.** Кніга Зыходу

**2 У якой з пералічаных кніг Біблii апавядаецца пра ацаленне сляпога праведніка?**



**А.** Ёва
**Б.** Даніэля
**В.** Тобія

**3 З чаго пачынаецца кніга Зыходу?**



**А.** З гісторыі пра рабства Юзафа ў Егіпце
**Б.** З пераліку радоў Ізраэля, якія ўвайшлі ў Егіпет
**В.** З гісторыі пра знаходжанне Майсея ў рацэ

**4 Якая з пералічаных кніг Біблii змяшчае апісанне дзейнасці прарока Іллі?**



**А.** 1 Кніга Валадарстваў (3 Валадарстваў)
**Б.** 1 Кніга Самуэля (1 Валадарстваў)
**В.** Кніга Прапаведніка

**5 Якая з кніг Біблii апавядае пра прарока, што ўцякаў ад сваёй місіі і трапіў у жывот кіта?**



**А.** Кніга Ёны
**Б.** Кніга Осіі
**В.** Кніга Ёіля

Правільныя адказы на с. 16

**6 Як называецца кніга Біблii, у каторай апісваецца цудоўнае выратаванне чалавека ў яме з ільвамі?**



**А.** Кніга Быцця
**Б.** Кніга Зыходу
**В.** Кніга Даніэля

**7 Якая з пералічаных кніг Біблii пачынаецца гэтымі словамі: "Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было слова"?**



**А.** Кніга Быцця
**Б.** Кніга Другазаконня
**В.** Евангелле паводле Яна

**8 У якой з пералічаных кніг Біблii можна знайсці гэтыя словы: "І сказаў Ён мне: "Сын чалавечы, з'еш гэты скрутак і ідзі прамаўляць да Ізраільцянаў" ... Ды я з'еў яго, і стаў ён у вуснах маіх салодкі, як мёд"?**



**А.** Захарыі
**Б.** Эзэхіэля
**В.** Апакаліпсіс

**9 Якая кніга апавядае пра прарока, катораму Бог сказаў ажаніцца з блудніцай?**



**А.** Кніга Осіі
**Б.** Кніга Амоса
**В.** Кніга Быцця

**10 Якая кніга з Біблii гаворыць пра будаўніцтва Саламонам Храма ў Ерусаліме?**



**А.** 1 Кніга Валадарстваў (3 Валадарстваў)
**Б.** 1 Кніга Самуэля (1 Валадарстваў)
**В.** Кніга Прапаведніка

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (154)
студзень 2024 г.

# Конкурс батлеек прайшоў у Віцебску

**5 студзеня ў Доме культуры Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны адбыўся конкурс батлеек, які ўжо традыцыйна праводзіцца ў Віцебскай дыяцэзіі пасля свята Божага Нараджэння.**

■ **Лаліта Арлоўская**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Каб прадставіць свае батлейкі, на конкурс сабралася сем парафій з усёй дыяцэзіі: парафія Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі (Удзела), парафія св. Антонія (Віцебск), парафія св. Уладзіслава (Віцебск), парафія Езуса Міласэрнага (Віцебск), парафія Адведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны (Гарадок), парафія Нараджэння Маці Божай (Браслаў), парафія Святой Тройцы (Глыбокае).

Ацэньвала тэатральнае майстэрства ўдзельнікаў кампетэнтнае журы: а. Клеменс Верт SJ – мадэратар курыі Віцебскай дыяцэзіі, а. Міхаіл Ермашкевіч OP, Іосіф Пятровіч Антонаў – былы дырэктар Астравенскай сярэдняй школы, Ірына Вацлаўна Саматой – літаратуразнаўца, Алег Рыхтэр – акцёр беларускага тэатра "Лялька".

На пачатку конкурсу біскуп Алег Буткевіч памаліўся разам з удзельнікамі і пажадаў усім поспехаў і радасці ў выкананні іх творчай працы.

Першымі выступілі ўдзельнікі з парафіі Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі з Удзела. Яны прадставілі гісторыю стварэння францішканскага ордэна. Менавіта францішкане 800 гадоў таму зладзілі першую ў свеце батлейку.

Парафія святога Антонія з Віцебска ўзяла за аснову сваёй батлейкі легенду пра чацвёртага караля – Арбатана, які быццам таксама збіраўся ісці за Бэтлеемскай зоркай да Божага Сына, але тая прывяла яго зусім у іншае месца... Праз сваю батлейку ўдзельнікі з парафіі св. Антонія запрасілі гледачоў больш глыбока паразважаць над сучаснымі праблемамі чалавецтва і па прыкладзе караля Арбатана адкрыць свае сэрцы на патрэбы бліжніх.

Наступнымі батлейку прадставілі ўдзельнікі з парафіі святога Уладзіслава з Віцебска. Іх сцэнка распавядала пра падзеі, якія адбываліся напярэдадні Божага Нараджэння. Праз яе гледачы ўбачылі, як магла выглядаць падрыхтоўка анёлаў, што рабілі пастухі і тры мудрацы ў ноч перад Божым Нараджэннем. Дарэчы, у гэтай батлейцы ўдзельнічала самая вялікая колькасць акцёраў.

Батлейка парафіі Езуса Міласэрнага (Віцебск) вярнула гледачоў у школу, у той самы "самы кепскі клас у паралелі"... Але з'яўленне анёла і сузіранне цуду Божага Нараджэння дапамаглі гэтаму класу выправіцца.

Пасля кароткага перапынку чаргу выступаў працягнула парафія Адведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны (Гарадок). Асноўным сімвалам гэтай батлейкі была Бэтлеемская зорка, а галоўнай ідэяй можна лічыць словы з Евангелля: "Што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25, 40).

У чым сутнасць Божага Нараджэння? Што ці Хто стаіць у цэнтры гэтага дня? Пра што так лёгка забыцца ў перадсвяточнай падрыхтоўцы? – на гэтыя пытанні ў сваёй батлейцы адказалі ўдзельнікі з парафіі Нараджэння Маці Божай з Браслава.

Божае Нараджэнне – гэта не толькі прыгожае сямейнае свята, перш за ўсё, гэта – Дзень Нараджэння Езуса. Менавіта пра Дзень Нараджэння Збаўцы нагадала батлейка парафіі Святой Тройцы з Глыбокага, падчас каторай акцёры праз жарты і танцы запрасілі гледачоў глыбей паразважаць над пытаннем: "Што я падарыў Езусу на Яго Дзень Нараджэння?"

Пасля заканчэння асноўнай часткі ўсіх удзельнікаў чакалі гарачы абед і экскурсія ў анатамічны музей. Журы ў гэты час займалася падвядзеннем вынікаў.

**Дыпломы за найлепшае акцёрскае майстэрства атрымалі:**

- **Ксенія Конахава і Вікторыя Хованская** – вядучыя-анёлкі з Глыбокага;
- **Уладзіслаў Марціноўскі** – роля нячысціка (Віцебск, катэдра);
- **Данііл Федчанкаў** – роля слугі Арбатана (Віцебск, св. Антонія);
- **Кацярына Татарыновіч** – танец (Глыбокае).

**Дыпломамі былі таксама ўзнагароджаны:**

- **Браслаў** – за высокі ўзровень пастаноўкі спектакля;
- **Гарадок** – за адметнасць сюжэту і ідэю пастаноўкі;
- **Віцебск, св. Уладзіслава** – за арыгінальнасць сцэнічных касцюмаў;
- **Удзела** – за арыгінальны пераказ гісторыі стварэння ордэна братоў-францішканаў.

**Месцы ў гэтым годзе размеркаваліся наступным чынам:**

**1 месца** – парафія Езуса Міласэрнага (Віцебск);

**2 месца** – парафія святога Антонія (Віцебск);

**3 месца** – парафія Святой Тройцы (Глыбокае).

На заканчэнне конкурсу біскуп Алег Буткевіч падзякаваў удзельнікам, арганізатарам і спонсарам і даў усім прысутным пастырскае блаславленне.



Парафія Езуса Міласэрнага (Віцебск)


Парафія святога Антонія (Віцебск)


Парафія Святой Тройцы (Глыбокае)


Парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Удзела)

## Падарунак ад Папы Францішка прыбыў у Оршу

**27 снежня 2023 года ў парафію святога Юзафа ў Оршы прыбыў ружанец – падарунак Папы Францішка для дзяцей з Беларусі, паведамляе Catholic.by.**

Такі прэзент 18 кастрычніка Святы Айцец перадаў з нагоды малітоўнай акцыі "Мільён дзяцей моліцца на Ружанцы". Паводле жадання Пантыфіка ружанец будзе перадавацца з парафіі ў парафію, каб запрашаць як мага больш дзяцей і дарослых маліцца за мір у свеце.

Дзеці парафіі святога Юзафа ў Оршы ўрачыста прынеслі ружанец да алтара на пачатак святой Імшы, цэлебрацыю якой узначаліў кс. Міхаіл Цвячкоўскі MIC. Пробашч распавёў дзецям і дарослым кароткую гісторыю ўзнікнення святога Ружанца, а таксама падчас святой Імшы пазнаёміў удзельнікаў з многімі падзеямі з гісторыі Касцёла, калі Марыя, маці Божая, дапамагала вернікам, якія ў складаных сітуацыях звярталіся да Яе па дапамогу. Кс. Міхаіл зазначыў, што сёння, калі ў свеце трываюць войны, Марыя можа прынесці супакой праз святы Ружанец.

На заканчэнне святой Імшы дзеці супольна са святарамі і дарослымі паматіліся на ружанцы ў інтэнцыі міру ва ўсім свеце.




*Кс. Міхаіл Цвячкоўскі MIC, тэкст; Фота: з архіву парафіі*

# Біблійны лексікон: цела

**“Слова сталася целам і пасялілася між намі”, – урачыста і радасна абвяшчаем мы ў перыяд Божага Нараджэння (Ян 1, 14).**



*Кожны раз, прамаўляючы падчас нядзельнай Эўхарыстыі “... і ўцелавіўся ад Духа Святога з Дзевы Марыі”, схіляем галовы – а 25 снежня і 25 сакавіка нават становімся на калені, калі вызнаём гэту праўду ў Сімвале веры: спрадвечны Бог прымае чалавечае цела, становіцца адным з нас, падобным да нас ва ўсім, апрача граху. З іншага боку, тое самае слова “цела” выкарыстоўваецца біблійнымі аўтарамі ў іншым, негатыўным значэнні. Гэты факт можа выклікаць замяшанне ў нашым успрыманні, таму пастараемся заглыбіцца ў тое, што адкрывае нам Божае слова пра нашу (і Божую) цялеснасць.*

Грэцкае слова *sarx*, перакладзенае як “цела”, – адно з тых словаў, што ў залежнасці ад кантэксту маюць розныя сэнсы. Першае значэнне *sarx* – “плоць”, г.зн. “мяккая” частка таго, што з’яўляецца матэрыяльным складнікам чалавека (ці таксама жывёлы). Па аналогіі гэтае паняцце можа ўказваць таксама на чалавека наогул як жывую істоту. Такое значэнне слова “цела, плоць” – цалкам нейтральнае. Яно адпавядае габрэйскаму бачанню чалавека, які мае жыццё дзякуючы подыху, што Пан Бог удыхнуў у яго ноздры (пар. *Быц* 2, 7). Усё, што выходзіць з рук Божых, – “прыгожае і добрае”, нават “вельмі” (пар. *Быц* 1, 31). Чалавек як вяршыня Божага стварэння асаблівым чынам адлюстроўвае славу Божую ў сваёй цэласнасці, як істота духоўная і цялесная. Дарэчы, у старазапаветным уяўленні, калі гаворка ідзе пра “душу” чалавека, найчасцей маецца на ўвазе чалавечая істота ў яе цэласнасці – з целам і душой.

З іншага боку, біблійная антрапалогія не ігнаруе той факт, што цела/плоць раней ці пазней перастаюць жыць, паддаюцца тленню. Іх існаванне ў часе абмежаванае. Таму ў Святым Пісанні мы знаходзім таксама сцвярджэнні пра тое, наколькі прамінальнае жыццё чалавека ў целе, наколькі наша існаванне крохкае, пазначанае слабасцю, нясталасцю і смерцю (пар. *Іс* 40, 6 і *1 П* 1, 24: “Усякае цела – быццам трава...”). У біблійным уяўленні хвароба, цярпенне і смерць звязаныя з грахом, які ўвайшоў у гісторыю людзей і сапсаваў чалавечую прыроду. Таму, паводле аналогіі, натхнёныя тэксты кажуць пра цела/плоць таксама як пра тое вымярэнне чалавечай істоты, якое закранутае наступствамі граху і дзе грэх “знаходзіць сабе жыллё”. Так апостал Павел з горыччу усклікае: “Не жыве ... у маім целе добрае... Зло, якога не хачу, раблю” (*Рым* 7, 18-19). Езус жа сцвярджае: “Дух ажыўляе, цела ж ні на што не прыдатнае” (*Ян* 6, 63). У такім негатыўным сэнсе мы часта можам пачуць у тэкстах св. Паўла пра “цялеснае”, якое супрацьпастаўляецца таму, што Божае, што паходзіць ад Духа Святога. Чытаючы пасланні апостала Паўла (і іншых аўтараў, якія карыстаюцца падобным лексіконам), важна добра разумець, што такім чынам яны не прыніжаюць цялеснае, матэрыяльнае вымярэнне нашага існавання ў адрозненне ад таго, што “духоўнае”: такі дуалістычны погляд з’яўляецца ерассю, якая зноў і зноў у розных формах узнікала на працягу гісторыі хрысціянства. Матэрыяльны складнік нашай істоты сам па сабе добры, бо паходзіць ад Бога-Стваральніка. Не трэба забывацца, што Ён паводле Божай задумы будзе пераменены праз уваскрасенне з памерлых дзеля нашага існавання ў Божай славе. Як мы карыстаемся нашым целам, якія рашэнні прымаем адносна яго, як дзейнічаем праз яго – гэта сфера выбару, которая датычыць нашай духоўнай сутнасці. Тое, хто і што мы ёсць у гэтым свеце, з’яўляецца непадзельнай еднасцю духа, душы і цела (патрыйная візія таго, хто мы ёсць, – тэма для іншай размовы, яе абмяркуем у наступны раз). Грахоўныя імпульсы, здаецца, “нараджаюцца” ў нашым целе і звязаныя з яго рознымі патрэбамі, аднак нам трэба ўмець “услухоўвацца” у глыбіню нашай істоты і адрозніваць знешнія праяўленні ад іх каранёў. (Памятаем, што галоўны грэх – гэта пыха: грэх зрынутых анёлаў, бесцялесных істотаў!) Гэта праўда, як кажуць таксама сённяшнія навукоўцы, што дрэнныя схільнасці “запісваюцца” цялесна ў нашым мозгу і нервовай сістэме ў выглядзе нейронных сувязяў, і ў выніку наша свабода можа аказацца ў значнай меры абмежаванай (асабліва калі дрэнныя звычкі становяцца паўнавартаснымі залежнасцямі). Але спакуса – гэта духоўная з’ява, якая датычыць маральнага выбару чалавека: рашэння слухацца ці не слухацца Божай волі. Здаецца, што, як здараецца з нашымі добрымі пастановамі ў чымсьці сябе абмежаваць ці адмовіцца ад чагосьці шкоднага, гэта менавіта наша цела нам “здраджвае”, цягне ў “свой” бок насуперак “добрай” волі. Праўда, аднак, заключаецца ў тым, што наша ўзаемадзеянне з уласным целам праз розум і волю – гэта складаны працэс, дзе сваё цела трэба не проста “ўтаймоўваць”, але ў першую чаргу вучыцца правільна любіць яго. Здаровая аскеза менавіта там бярэ свой пачатак – ва ўменні цаніць і добра клапаціцца пра той Божы дар, які дазваляе нам быць Божымі партнёрамі ў гэтым свеце і праяўляць сваю любоў праз канкрэтныя ўчынкі служэння, увагі і пяшчоты.

Падсумоўваючы вышэй сказанае, заўважым, што цела – гэта матэрыяльная частка чалавечай натуры, створаная Богам як штосьці добрае і прыгожае. Дзякуючы ёй мы існуем у часе і прасторы. Адначасова ў ёй праяўляецца наша фізічная крохкасць і праз яе – таксама маральная слабасць чалавека. Не трэба абясцэньваць і прыніжаць сваё ўласнае ці чужое цела. Дзякуючы правільнаму ўзаемадзеянню (якое пачынаецца з любові і здаровага клопату пра наша цела) яно становіцца інструментам, каторы дазваляе нам быць Божымі партнёрамі ў гэтым свеце. Няхай Езус, Сын Божы, Які стаў нашым братам, прыняўшы такое ж цела, як нашае, будзе для нас узорам і крыніцай любові, што ўцелаўляецца ў служэнні.

А ў наступны раз мы разгледзім, што Святое Пісанне мае на ўвазе, калі кажа пра тры часткі чалавечай істоты – дух, душу і цела.

***Айцец Віктар Жук SJ***

# Как спастись от алкоголизма?

**“Анонимные алкоголики” – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге “Анонимные алкоголики”. Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа “Возрождение”
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа “Выход есть”
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа “Лотос”
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа “Истина”
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа “У озера”
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа “Точка отсчёта”
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа “Радость”
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа “Свет”
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## Хвала Хрысту!



*3 студзеня дзень нараджэння адзначыў пробашч нашай Верхнядзвінскай парафіі* ***ксёндз Аляксандр Грыцкевіч.*** *З гэтай нагоды хочацца ад усёй нашай каталіцкай супольнасці павіншаваць святара і падзякаваць яму за плённую працу!*

*Ксёндз Аляксандр Грыцкевіч працуе ў нашай парафіі восем гадоў. За гэты час ён многа зрабіў для развіцця касцёла і ўмацавання духоўнасці на верхнядзвінскай зямлі. Святар згуртаваў людзей у моцную суполку, зацікавіў парафіяльнымі справамі, вучыць заўжды ставіць на першы план веру ў Бога і на гэтай аснове будаваць сваё жыццё.*

*Адметна, што наш пастыр знаходзіць падыход да кожнага чалавека, мы адчуваем яго любоў і сапраўдны клопат, моц малітвы і духоўную падтрымку. Пры гэтым ксёндз Аляксандр вылучаецца прынцыповасцю і бескампраміснасцю ў адстойванні ісціны веры, справядлівасці і строгіх маральных каштоўнасцяў. Гэтая яго паслядоўнасць і грунтоўнасць у веравызнанні настройвае нас жыць і працаваць па Божых законах. У касцёле мы знаходзім адказы на многія пытанні, каторыя нас хвалююць, умацоўваем нашу любоў да Хрыста і адно да аднаго, бяром у спадарожнікі хрысціянскую навуку. Кожнае казанне святара – чарговае адкрыццё, якое прымушае разважаць і рабіць высновы для далейшага жыцця.*

*Ксёндз заахвочвае да веры дзяцей і моладзь, многае робіць дзеля іх духоўнага выхавання, цікава праводзіць заняткі ў парафіяльнай школе, навучае міністрантаў, ладзіць "Канікулы з Богам" і падарожжы па святынях Беларусі.*

*Таксама адраджаюцца такія касцельныя традыцыі, як аднаўленне шлюбаў, парафіяльныя святы, калядаванне, сумесны адпачынак. Па ініцыятыве святара ў Верхнядзвінску створана суполка "Маці ў малітве", якая актыўна і плённа дзейнічае. Надзвычай узнёслымі і кранальнымі атрымліваюцца ў нас святы першай споведзі: гэта незабыўная падзея не толькі для дзяцей і бацькоў, але і для ўсёй нашай супольнасці.*

*Пад кіраўніцтвам святара пастаянна абнаўляюцца будынак касцёла і яго тэрыторыя. Летам святыня патанае ў кветках, а на Калядыззяе прыгожымі агеньчыкамі. Касцёл неаднойчы вызначаўся як найлепшы аб'ект па добраўпарадкаванні ў раёне і атрымліваў узнагароды. А які чароўны выгляд набывае храм у святы! Бадай, нідзе больш не сустрэнеш такіх прыгожых інсталяцый і дэкаратыўных кампазіцый, як тыя, што стварае ксёндз з вернікамі.*

*Мы сардэчна дзякуем айцу Аляксандру за мудрасць, за цярплівасць і дабрыню, за самаадданае служэнне Богу і людзям і жадаем плёну ў працы і адметнага святарскага жыцця! Будзем маліцца, каб Бог адарыў святара здароўем і сілай для працы, благаслаўляў ва ўсіх пачынаннях, вёў шляхам узрастання ў веры і мудрасці! Каб Божая Маці атуляла нашага пробашча сваёй міласэрнасцю і дабрынёй!*

***З павагай, вернікі Верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шаноўны* ***ксёндз Ян Пугачоў!*** *Прыміце нашы шчырыя віншаванні са святам Божага Нараджэння і Новым 2024 годам! Сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Маці, нязгаснага запалу і трываласці ў душпастырскай працы!*

*Няхай прынесеныя Збаўцам блаславенне і ласка, спакой і духоўная сіла будуць крыніцай радасці і надзеі!*

***З удзячнасцю і малітвай, вернікі касцёла Перамянення Пана ў Германавічах (Шаркаўшчынскі раён)***

## Шаноўны біскуп Алег Буткевіч!



*Віншуем Вас з 10-годдзем біскупскага пасвячэння! Жадаем Вам Божага блаславення, шчасця, моцнага здароўя, плённага служэння на хвалу Пана. Просім Бога, каб справы, дучаныя Вам, спрыліся, каб здзяйсняліся ўсе задуманыя планы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе Вас мацярынскай любоўю і аберагае на жыццёвым шляху!*

***Парафія св. Марыі Магдалены, г. Новалукомль***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*31 студзеня наш* ***святар Юрый Жаўняровіч*** *адзначае Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Юрый! Мы дзякуем Вам за працу па ўмацаванні духоўнага падмурку для вернікаў, жадаем Вам здароўя, асабістага шчасця, Божай міласэрнасці і шчодрасці! Няхай кожны новы дзень прыносіць толькі добрыя весткі, сэрца напаўняецца эмоцыямі ад слоў людской удзячнасці, а дарога жыцця будзе доўгай! Жадаем, каб Маці Божая падтрымлівала Вас і дапамагала ў пастырскім служэнні, каб і надалей хапала сіл працаваць дзеля духоўнага ўдасканалення людзей!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне касцёла Узвышэння Святога Крыжа (агр. Ахрэмаўцы)***

*Дзякуй Богу за год мінулы ,*
*І за радасці, і за няўдачы,*
*Што прайшлі, праляцелі, мінулі*
*І нічога нельга зыначыць.*

*Дзякуй Богу за хлеб штодзённы*
*І за ясныя ў небе зоры,*
*За цяпло і за дзень студзёны*
*І за любыя сэрцу прасторы.*

*Дзякуй Богу за ўсё, што з намі*
*Адбываецца ў гэтым свеце,*
*Што жывём і мудрэем самі,*
*І растуць у любові дзеці.*

*Што за ночу прыходзіць ранак,*
*Ярка кожнаму свеціць сонца,*
*І ў пару выспявае яблык...*
*Мы удзячны Яму бясконца.*

*Дзякуй Богу за ўсё, што маем*
*І аб чым у малітвах просім,*
*За свае спадзяванні, мары,*
*І за тых, каго ў сэрцы носім.*

***Даната Варабей***
*г. Мядзел*

## Хвала Хрысту!

*Паважанаму* ***Ксяндзу Юрыю Жаўняровічу*** *з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, радасці, аптымізму! У гэты дзень мы просім Марыю, каб заўсёды ахінала Вас сваёй пяшчотай і любоўю, а Яе ўмілаваны Сын апекаваўся Вамі і вёў па жыццёвым шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым святлом і дарамі ад Усемагутнага, а Святы Дух хай дапамагае мудра выкарыстоўваць свае дары і рабіць усё, каб Ваша жыццё было радасцю для людзей і хвалою для Бога!*

*Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі, а таксама за цярплівасць да нас! Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

## Фотафакт



**Часопіс "Forbes" назваў французскую манахіню адной з самых уплывовых жанчын у свеце.**

53-гадовая французская манахіня займае пасаду намесніцы сакратара Сінода Біскупаў. Яна стала першай жанчынай у гісторыі, якая атрымала права голасу на Генеральнай асамблеі Сінода ў лютым 2021 года.

# У ватыканскі кляштар, дзе амаль 10 гадоў жыў Бэнэдыкт XVI, прыехалі бэнэдыктынкі з Аргенціны



**У кляштар Mater Ecclesiae ў Ватыкане прыбылі манахіні-бэнэдыктынкі з Аргенціны. Рашэннем Яна Паўла II гэтае месца стала малітоўным цэнтрам, а пасля свайго сыходу Бэнэдыкт XVI жыў тут амаль дзесяць гадоў.**

Цяпер, па волі Папы Францішка, манастыр вяртаецца да свайго першапачатковага прызначэння. Тут будуць маліцца сёстры з абацтва святой Схаластыкі ў Вікторыі, у правінцыі Буэнас-Айрэс.

Кляштар знаходзіцца ў самым цэнтры Ватыканскіх садоў. У ім пасяліліся шэсць аргенцінскіх законніц, якіх вітаў кардынал Фернанда Вергес Альсага. Як старшыня Губернатарата Дзяржавы Ватыкан ён адказвае за ўсе арганізацыйныя пытанні, звязаныя з кляштарам Mater Ecclesiae. Неўзабаве пасля прыбыцця бэнэдыктынкі накіраваліся для малітвы ў грот Лурдскай Маці Божай, каторы знаходзіцца недалёка ад іх новага дома.

Як паведаміў Святы Пасад, сёстры пасяліліся ў кляштары, "каб падтрымліваць Святога Айца ў яго штодзённым клопаце пра ўвесь Касцёл праз служэнне малітвы, адарацыі, праслаўлення і ўзнагароды, уяўляючы сабой малітоўную прысутнасць у цішыні і адзіноце".

Першая супольнасць кляўзуровых манахінь была кананічна заснаваная ў Ватыкане Янам Паўлам II яго кароткім дакументам La vita contemplativa ад 25 сакавіка 1994 года. Супольнасці сясцёр мяняліся кожныя некалькі гадоў. У інтэнцыі Папы маліліся кларыскі, кармэліткі босыя, бэнэдыктынкі і візіткі.

Бэнэдыкт XVI выказаў жаданне жыць у гэтым месцы пасля свайго гістарычнага сыходу 11 лютага 2013 года, таму правёў тут апошнія гады жыцця, падтрымліваючы супрацоўнікаў Святога Пасаду і суправаджаючы Касцёл малітвай аж да сваёй смерці 31 снежня 2022 года.

***Кс. Аляксандр Амяльчэня,***
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Фразеалагізмы рэлігійнага паходжання ў сучаснай беларускай мове

**У апошніх мінулагодніх нумарах “Каталіцкага Весніка” мы абмяркоўвалі асаблівасці ўжывання ў беларускай мове некаторых фразеалагізмаў. Гэтая тэма аказалася дастаткова цікавай для нашых чытачоў. Аўтар матэрыялу атрымаў цэлы шэраг канкрэтных пытанняў адносна асаблівасцяў функцыянавання ў камунікацыі розных устойлівых спалучэнняў.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Але сёння мы паспрабуем крыху асвятліць тэму, узнятую нашай чытачкай са Шчучыншчыны спадарыняй Вандай К. У прыватнасці, яна пытаецца, як часта выкарыстоўваюцца ў беларускай літаратурнай мове ўстойлівыя спалучэнні, што маюць рэлігійны характар, паходзяць з тэкстаў Святога Пісання? Так, сп-ня Ванда піша: “Неяк апошнім часам я стала больш услухоўвацца ў казанні нашага святара, стала заўважаць, што ён нярэдка прыводзіць у прыклад тыя ці іншыя словы, што ёсць і ў Біблії, і ў Евангеллі, нават калі проста размаўляе з парафіянамі. Дык вось у мяне і ўзнікла пытанне: а ці часта ўжываюцца ў беларускай літаратурнай мове фразеалагізмы рэлігійнага паходжання? І якія з іх найбольш папулярныя?” Нам зграданае пытанне падалося сапраўды цікавым і актуальным, таму паспрабуем крыху пагаварыць пра гэта.

Безумоўна, у сучаснай беларускай мове рэгулярна ўжываюцца ўстойлівыя канструкцыі, што прыйшлі з мовы царкоўнаславянскай, з перакладаў Біблії, з Евангелля, Псалтыра. Спынімся на найбольш частотных, найбольш папулярных выслоўях.

Мяркуем, практычна ўсім носьбітам нашай мовы вядомыя наступныя спалучэнні: **час раскідваць камяні і час збіраць камяні** – *для ўсяго свой час*; **чакаць, як манны нябеснай** – *чакаць з вялікім нецярпеннем*; **зямля абяцаная** – *прывабнае, прыцягальнае месца, куды чалавек марыць трапіць*; **камень спатыкнення** – *нейкая цяжкасць, перашкода*; **святая святых** – *нешта таемнае, недаступнае іншым*; **несці свой крыж** – *мужна пераносіць цяжкасці лёсу*; **соль зямлі** – *найлепшыя, самыя таленавітыя людзі*; **хлеб надзённы** – *нешта жыццёва важнае, неабходнае для існавання* і інш. Названыя фразеалагізмы часта выкарыстоўваюцца і ў сродках масавай інфармацыі, і ў публічных дыскусіях на розныя тэмы.

Дзеля лепшага разумення асаблівасцяў ужывання падобных спалучэнняў непасрэдна ў тэксце прывядзём колькі ілюстрацый з мастацкай літаратуры. Так, напрыклад, спалучэнне **альфа і амега** мае значэнне “аснова ўсяго, нешта самае значнае”: *Уся сіла каўпакоўцаў, можна сказаць, **альфа і амега** іх стратэгіі і тактыкі заключалася ў няспынным руху – усё наперад і наперад* (Алесь Краўчанка). Яшчэ адна дастаткова частотная канструкцыя – **на векі вечныя**, якая мае значэнне “назаўсёды, навечна”: *Я, прызнацца, думаў спачатку астацца тут **на векі вечныя**, спадабалася мне тут і зямля, і людзі* (Кузьма Чорны). Заўважым, што даволі актыўна ўжываюцца ў нашай мове і іншыя фразеалагізмы з названымі кампанентамі, як, напрыклад, **век вечны**, **веквяком**, **на векі вякоў**, **на векі вякоў**, **па век вечны**. Выразна бачна, што на аснове канцэпта **век** пабудаваны цэлы шэраг фразем з блізкім значэннем.

Хіба кожны адукаваны чалавек знаёмы з фразеалагізмам **кесарава кесараві (кесару)** са значэннем “кожнаму належнае, тое, чаго хто-небудзь заслужыў”: *Я хацеў бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашай грамадою, бо трэба ж, як кажуць, аддаць **кесарава кесараві*** (Якуб Колас). Канстатуем, што найчасцей хіба даддзенае спалучэнне ўжываецца ў мастацкіх тэкстах у маўленні прадстаўнікоў інтэлігенцыі, у слоўніках звычайна падаецца з паметай “кніжнае”.

Яшчэ адзін досыць частотны фразеалагізм – **косць ад косці**. Тут таксама можна казаць пра адметны ўзнёслы яго семантычна-стылістычны характар. Звычайна ў мастацкіх тэкстах ці ў вусным маўленні праз яго ўжыванне рэалізуецца значэнне “кроўная роднасць, роднае дзіця, дзецішча каго-небудзь”: *І мы, настаўнікі, цела ад цела і **косць ад косці** народа, павінны спытаць сябе: што ж нам рабіць?* (Якуб Колас).

Мы разгледзелі толькі некаторыя ўстойлівыя спалучэнні, якія паходзяць з тэкстаў Святога Пісання. Гэта акурат тыя фразеалагізмы, якія на слыху ў носьбітаў беларускай мовы, якія можна пачуць ці прачытаць практычна штодня. Выразна бачна, што ўсе яны валодаюць пэўнай экспрэсіўнай афарбоўкай, маюць адмысловы семантычна-сімвалічны складнік. Яшчэ раз падкрэслім, што ўсе яны выкарыстоўваюцца падчас пэўных інтэлектуальных гутарак, дыскусій, абмеркаванняў. Згаданыя канструкцыі трывала замацаваліся ў лексічнай сістэме беларускай мовы, дадаючы ёй адмысловай адметнасці і паказваючы на шматвяковыя традыцыі.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Данута Міхайлоўская** *(Мураваная Ашмянка)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Станіслава Рагожкіна** *(Пліса)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Тэрэза Вітарановіч** *(Докшыцы)*, **Ала Краўчонак** *(Таргуны)*, **Салаўёва Н.Н.** *(Дворнае Сяло)*, **Генадзь Лапушынскі** *(Коўзаны)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Анэля Кашкур** *(Павяцце)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Альфрэда Меранкова** *(Віцебск)*, **Браніслава Шакель** *(Браслаў)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Віктар Мулярoнак** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Сяргей Бабкевіч** *(Мядзел)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Адэля Шуманская** *(Наваполацк)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абабе)*, **Валерыя Шымковіч** *(Навасёлкі-2)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Лілія Кароль** *(Ваўкавыск)*, **Ніна Марунько** *(Навалукомль)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ірына Рашкевіч** *(Пашкоўшчына)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абабе)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Вольга Завацкая** *(Полацк)*, **Даната Рудак** *(Камарова)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Тамара Супко** *(Цешалава)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Алена Емяльянава** *(Дунілавічы)*, **Аліцыя Лазоўская** *(Гродна)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Алена Канчанін** *(Нарач)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Эдуарда Аляксеева** *(Дунілавічы)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*. Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!



***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# У беларусаў з'явілася свая “Ціхая ноч”: песня арганісткі вясковага касцёла трапіла на дзяржузровень

**Калядны гімн са словамі “Да жыцця ачніся, беларусе-братка” запісалі Акадэмічны хор і Сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі. Аўтару ўжо 82 гады, але яна і цяпер іграе на аргане ў касцёле, актыўна вядзе сацсеткі і выкладвае відэа з новымі песнямі.**

Песню аўтарства каталіцкай верніцы Марыі Трапашкі “Зорка Бэтлеемска” ўключылі ў свой рэпертуар Акадэмічны хор і Сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі. 7 студзеня, калі Раство Хрыстова адзначалі праваслаўныя, мінскі кампазітар Вячаслаў Пяцько апублікаваў запіс у выкананні гэтых дзяржаўных калектываў каляднага гімна, які дагэтуль спявалі пераважна ў касцёлах.

Упершыню на такім узроўні песня была выкананая 25 снежня 2023 года на канцэрце “Калядная фантазія” ў мінскім к/з “Верхні горад”. Тады ж быў зроблены запіс. Аранжыроўку для выканання гімна хорам і аркестрам зрабіў Вячаслаў Пяцько, дырыжыраваў Аляксандр Высоцкі (відэа можна паглядзець паводле спасылкі, пададзенай ніжэй).

Песню са словамі “Да жыцця ачніся, беларусе-братка” і прыпевам “Не спі, абудзіся! Хрыстос нарадзіўся!” часта можна пачуць у калядны перыяд у беларускіх касцёлах, але нямногія ведаюць пра тое, хто напісаў гэты гімн.

Katolik.life знайшоў аўтара песні. Аказалася, што Марыі Язэпаўне Трапашка ўжо 82 гады, але яна дагэтуль служыць арганісткай у касцёле ў вёсцы Вішнева, піша вершы і музыку, запісвае новыя песні – усё гэта яна выкладае ў Facebook.

Гімн “Зорка Бэтлеемска” Марыя Трапашка напісала яшчэ ў 1991 годзе. А ў 1999 годзе ён быў уключаны ў рэлігійны песеннік і так распаўсюдзіўся сярод католікаў. А ў канцы 2023 года з Марыяй Язэпаўнай звязаўся Вячаслаў Пяцько, які спытаў пра дазвол на апрацоўку песні.

Гісторыя “Зоркі Бэтлеемскай” нагадвае гісторыю каляднага гімна “Ціхая ноч”, які спяваюць ва ўсім свеце. Музыку да яго таксама напісаў арганіст правінцыйнага храма.



Наогул Марыя Трапашка – аўтар многіх духоўных песень, але ў інтэрнэце пра яе, на жаль, вельмі мала інфармацыі. Амаль усё жыццё яна правяла ў Вішневе, працавала школьным настаўнікам, і доўгія гады грае і спявае ў касцёле. “Шмат песень мною створана, але так мала каму яны патрэбныя. Часта стрымліваю сябе: хопіць! Прэч інтанацыі, прэч матывы!.. Але праз нейкі час, пасля творчых мук і пошукаў атрымалася – ПЕСНЯ! Цешуся бясконца! І засмучаюся пазней... Песнячка, дзіцятка маё! Ты – Прыгожая! Шчырая і Праўдзівая! Але шчаслівая доля наўрад ці чакае цябе...”, – кажа Марыя Язэпаўна.

Дарэчы, таксама 7 студзеня апублікаваны запіс іншай каляднай песні Марыі Трапашка – “У Бетлеем за пастушкамі” – у выкананні ансамбля інтэрнацыянальнай музыкі “Прамень”.



## Жанчын запрашаюць у Рось, каб паразважаць пра сваю прыгажосць і моц

**3-4 лютага ў Росі (Ваўкавыскі дэканат) пройдуць рэкалекцыі для жанчын “Прыгажосць і моц жанчыны”.**

Духоўныя практыкаванні адбудуцца ў рэкалекцыйным доме, правядзе іх кс. Віктар Ханько. Узрост удзельніц – ад 18 гадоў.

Для ўдзелу абавязковая рэгістрацыя па нумары: +375 29 586-39-16 (кс. Віктар). Тэлефанаваць або пісаць на Viber з 14.00 да 16.00.

Пры рэгістрацыі трэба ўказаць імя, прозвішча, кантактны тэлефон, паведаміць, ці патрэбныя ў дні рэкалекцый начлег, абед, вячэра, снеданне.

Магчымасць начлегу і месцы ў рэкалекцыйным доме абмежаваныя. Просьба абавязкова папярэдзіць у выпадку, калі замовілі начлег, абед, вячэру ці снеданне, але не скарыстаецеся імі ці наогул не прыбудзеце на рэкалекцыі.

За ўдзел у рэкалекцыях робіцца ахвяраванне ў рэкалекцыйным доме.

***Папярэдні расклад***

*3 лютага, субота:*

8.00-9.00 – прыбыццё
10.00 – першая канферэнцыя
12.00 – другая канферэнцыя
13.30 – абед
15.00 – Вяночак да Божай Міласэрнасці, канферэнцыя, споведзь
18.00 – святая Імша
19.00 – вячэра
20.00 – адарацыя з малітвай

*4 лютага, нядзеля:*

8.30 – Ружанец
9.00 – снеданне
10.00 – канферэнцыя
12.00 – святая Імша
13.00 – абед, заканчэнне рэкалекцый.

*grodnensis.by*



## Святар Ігар Анісімаў праспяваў “Аллелюя” па-беларуску: з яго ўдзелам знялі новы кліп

**Раней відэа, як ксёндз спявае гэту песню на рускай мове падчас шлюбу, стала папулярным у YouTube. Многія выказалі пажаданне, каб святар праспяваў па-беларуску. У выніку атрымаўся “цудоўны падарунак”.**

Пробашч каталіцкай парафіі ў Слоніме кс. Ігар Анісімаў праспяваў знакамітую песню “Аллелюя” на беларускай мове. Запіс у студыі арганізавала “Радыё Марыя”, таксама каманда радыё зняла з удзелам святара кліп – ён стаў фіналам навагодняга фільма “Цудоўны падарунак”.

Гэта адбылося праз дзевяць гадоў пасля таго, як вясельныя відэааператары зрабілі кліп пра тое, як ксёндз Ігар спявае падчас шлюбу ў касцёле песню “Аллелюя” на рускай мове. Відэа набрала звыш 1,5 мільёна праглядаў, а святар стаў вядомым далёка за межамі Беларусі.

Аднак у каталіцкай супольнасці выказвалі пажаданні, каб ксёндз праспяваў гэтую самую песню па-беларуску. Святар пагадзіўся, і такім чынам “Радыё Марыя” выканала пажаданне вернікаў, зрабіўшы навагодні “цудоўны падарунак”. Кліп можна паглядзець, адсканаваўшы QR-код:



Для запісу беларускамоўнай версіі знакамітай песні выкарысталі тэкст, які прадставіла арганістка касцёла ў Вішневе Марыя Трапашка. Яна зрабіла вольны пераклад рускамоўнага тэксту ксяндза Ігара.

Такім чынам, беларускія католікі надалі папулярнай песні хрысціянскі змест, хоць у арыгінале яна мае зусім іншы сэнс.

*Katolik.life*

## У Нікарагуа вызваленыя біскупы і святары

**Затрыманы ў 2022 годзе біскуп Матагальпы, а таксама біскуп Сіуны, два семінарыста і пятнаццаць святароў былі вызвалены з турмы. Гэта пацвердзіў урад Нікарагуа.**

Дзевятнаццаць прадстаўнікоў Каталіцкага Касцёла, сярод якіх біскуп Раланда Альварэс, біскуп Ісідор дэль Кармэн Мора Артэга, два семінарысты і пятнаццаць святароў, былі вызваленыя з турэмнага зняволення. Навіна, распаўсюджаная мясцовымі СМІ, была пацверджана ўрадам Нікарагуа. За выключэннем аднаго чалавека, які застаўся ў Венесуэле, усе яны прыбылі 14 студзеня 2024 года ў другой палове дня ў Рым. Іх прымае Святы Пасад.

Мансеньёр Альварэс, біскуп Матагальпы і апостальскі адміністратар дыяцэзіі Эстэлі, быў асуджаны на 26 гадоў турэмнага зняволення і знаходзіўся ў турме з лютага 2023 года. Да гэтага ён утрымліваўся пад хатнім арыштам. Біскуп Мора быў арыштаваны ў снежні 2023 года.

1 снежня 2024 года, падчас сустрэчы з вернікамі на малітве Анёл Панскі, Папа Францішак прызнаўся ў сваёй заклапочанасці сітуацыяй у Нікарагуа, заклікаўшы да “шляху дыялогу, каб пераадолець цяжкасці”.

У кастрычніку 2023 года з турмы былі вызваленыя дванаццаць нікарагуанскіх святароў. Святы Пасад прыняў іх у Рыме.

***Марыя Валодзіна,***
*Vatican News*



# ПАЗНАВАЙКА

Пахвалёны Езус Хрыстус.

Дарагі дружа, вітаю цябе ў новым нумары "Пазнавайкі". Сёння прапаную табе больш даведацца пра свята, якое Каталіцкі Касцёл адзначае штогод 2 лютага.

Гэта Ахвяраванне Пана. У гэты дзень успамінаецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання, прадпісанага законамі Старога Запавету. Ужо ў самым пачатку зямнога жыцця Збаўцы Бог сведчыць, што Езус прыйшоў у свет не парушыць закон, а выканаць яго.

Ва ўсходняй традыцыі яно называецца «Стрэчаннем», бо ў дзень, калі Марыя з Юзафам прынеслі Дзіцятка Езуса ў святыню, Месія ўпершыню сустракаецца са сваім народам. Першымі людзьмі, якія сустрэлі Пана, пазнаўшы ў маленькім Дзіцятку самога Хрыста, былі прарок Сімяон і старая ўдава па імені Ганна, якая няспынна прабывала ў святыні.

Падчас Літургіі Слова ў свята Ахвяравання Пана чытаецца ўрывак Евангелля ад Лукі 2, 22-40.

Прачытай яго, адкажы на пытанні крыжаванкі, і даведаешся, як яшчэ называюць гэтае свята.

## 1 заданне

1. Дзіця якога полу павінна было быць прысвечана Пану паводле закону Маісея?.
2. З якім чалавекам быў Сімяон?
4. Каго павінен быў убачыць Сімяон перад смерцю?
5. Устаўце прапушчанае слова: "вочы мае ўбачылі ... Тваё"
6. Што рабілі бацька і Маці Езуса, калі пачулі прамову Сімяона?
7. Устаўце прапушчанае слова: "Вось гэты прызначаны на падзенне і на паўстанне многіх у Ізраэлі , і на знак, якому ... будуць."
8. Кім была Ганна з роду Асэра?



Сапраўды, у свята Ахвяравання Пана вернікі ўшаноўваюць Маці Божую Грамнічную. Марыя - пакорная слуга Пана, поўная ласкі. У яе душы заўсёды гарэла святло веры, надзеі і любові.



Паводле старажытных легендаў, Маці Божая ў лютаўскія ночы ходзіць па палях і межах з запаленай свечкай, ахоўвае азімыя ад вымярзання, а заблукаўшым падарожным асвятляе дарогу. Найсвяцейшай Панне ў вандроўцы спадарожнічае прыручаны воўк, якога ацаліла перад раззлаванымі гаспадарамі. Легенда паведамляе, што ўцякаючы воўк хаваўся пад плашчом Марыі. Праз хвіліну з'явілася кампанія мужчын з віламі і паходнямі, пытаючы, ці Пані не бачыла тут якогасьці воўка. Марыя адказала: "Воўка? Воўк ёсць у кожным з вас".

## 2 заданне

У гэты дзень асвячаюцца свечкі, якія называюцца "грамнічнымі".

Абвядзі выпадкі, калі выкарыстоўваецца грамнічная свечка.




## 3 заданне

Размалюй ілюстрацыю. І адкажы на пытанні.

**Якая падзея на ёй адлюстравана?** ______________________________

**Якіх герояў намаляваў аўтар?** ______________________________

**Якія героі яшчэ прысутнічалі падчас гэтай падзеі?** ______________________________



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# Спіс Шындлера



**Кажуць, у цёмныя часы найлепш бачна светлых людзей. Менавіта гэтае выслоўе прыходзіць на думку, калі пачынаеш паглыбляцца ў стужку "Спіс Шындлера".**

Гэта гістарычная драма, заснаваная на рэальных падзеях. У ёй распавядаецца пра нямецкага бізнесмена Оскара Шындлера. Ён, з'яўляючыся чальцом фашысцкай НСДАП, здолеў уратаваць ад смерці больш за тысячу габрэяў падчас Халакосту.

Польскі Кракаў, 1939 год. Нацысцкае камандаванне збірае габрэяў, каб потым перасяліць у гета. А ў гэты час Оскар Шындлер арганізоўвае сваю новую фабрыку. Яму не хапае ані працаўнікоў, ані грошай, таму Оскар наймае на працу габрэяў, якія прыносяць свае грошы, бо трацiць іх не было куды.

Здавалася б, хітры ход хітрага бізнесмена. Але людзі ідуць да яго з радасцю, бо гэта адзіны шанец пазбегнуць гета. А Шындлер пры тым купаецца ў багацці ад даходаў фабрыкі, якая развіваецца.

Гістарычныя падзеі не стаяць на месцы, яны змяняюцца адна за адной. І вось час становіцца цёмным і для габрэяў, і для Оскара. На працягу ўсяго фільма гледачы бачаць, як змяняецца ён ад прадпрымальнага авантурыста да гуманнага і сапраўды светлага чалавека.

Я не буду пераказваць сюжэт, толькі зазначу, што заканчваецца стужка кранальным і шчымлівым кадрам. Гэта працэсія да магілы Оскара Шындлера. У ёй ідуць выратаваныя габрэі, іх дзеці і ўнукі, акцёры з фільма.

Фільм насычаны цяжкімі сцэнамі гвалту, забойстваў, жорсткіх адносінаў... А разам з тым – шматлікімі пытаннямі, каторыя можа задаць сабе кожны глядач.

Слоганам стужкі з'яўляецца сказ з габрэйскага Талмуда: "Той, хто ратуе адно жыццё, ратуе ўвесь свет". У самы цёмны час у аднаго чалавека хапіла сілаў, каб выратаваць многія жыцці. Што за якасці дапамаглі яму ў гэтым? Праз якія выпрабаванні яму давялося прайсці? Якія маральныя цяжкасці ён мусіў пераадолець?

Цікава, што карціна пабачыла свет дзякуючы аднаму з выратаваных габрэяў – Полдзеку Пфеффербергу. Ён быў упэўнены, што гэтую гісторыю павінен ведаць увесь свет і прыкладаў усе намаганні. Першым плёнам такіх намаганняў стала кніга Томаса Кенеллі "Каўчэг Шындлера". А ў 1993 годзе свет пабачыла кінастужка, рэжысёрам якой стаў знакаміты Стывен Спілберг.

Ужо ў 1994 годзе фільм "Спіс Шындлера" атрымаў узнагароду "Оскар" у сямі намінацыях. А ў 1995 годзе легендарны саўндтрэк кампазітара Джона Уільямса быў узнагароджаны прэміяй "Грэмі" ў намінацыі "Найлепшая інструментальная кампазіцыя для кіно".

Стужку адназначна можна назваць фільмам не для ўсіх. Але разам з тым "Спіс Шындлера " – гэта твор выбітнага рэжысёра пра выбітнага чалавека.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Філіпенка***

# Каляндар на люты

**2 лютага – свята Ахвяравання Пана**
**3 лютага – успамін св. Блажэя, біскупа і мучаніка; успамін св. Анзгара, біскупа**
**5 лютага – успамін св. Агаты, панны і мучаніцы**
**6 лютага – успамін святога св. Паўла Мікі і паплечнікаў, мучанікаў**
**8 лютага – успамін святой Жазэфіны Бакіты, панны; успамін св. Гераніма Эміліяні**
**10 лютага – успамін святой Схалястыкі, панны**
**14 лютага – Папяльцовая серада, пачатак Вялікага посту**
**17 лютага – успамін святых сямі Заснавальнікаў закона Слугаў Найсвяцейшай Панны Марыі (сэрвітаў)**
**21 лютага – успамін святога Пятра Дам'яна, біскупа і доктара Касцёла**
**22 лютага – Свята катэдры святога Пятра, апостала**
**23 лютага – успамін святога Палікарпа, біскупа і мучаніка**
**27 лютага – успамін св. Грыгорыя Нарэцкага, абата і доктара Касцёла**



# Рух "Маці ў малітве" пашыраецца. Новая супольнасць створана ў Шуміліне



**14 студзеня 2024 года ў нядзельны марозны ранак маці з віцебскіх супольнасцяў касцёла св. Антонія разам з сястрой Антоніяй і маці з касцёла св. Барбары паехалі ў Шумілінскі санктуарый Маці Божай Фацімскай з мэтай дапамагчы стварыць супольнасць "Маці ў малітве".**

Пасля святой Імшы чатыры маці падзяліліся сваім сведчаннем горача і ад усяго сэрца. Бог благаславіў і 14 жанчын засталіся на далейшую сустрэчу.

У зале ў сямейным коле сядзелі за сталом і адчуваліся добразычлівыя ўзаемаадносіны.

Усё пачалося з душэўнай кароткай размовы, а потым была супольная малітва, якую ўзносяць да Бога маці з супольнасцяў ва ўсім свеце.

На гэтым наша сустрэча не скончылася. Была гарбата, салодкі пачастунак і добразычлівыя размовы. Шчыра дзяліліся сваімі думкамі і ад гэтага нашы сэрцы радаваліся.

Ужо ў аўторак жанчыны касцёла Маці Божай Фацімскай сустрэнуцца на першую супольную малітву. Мы ўсе рады, што наша сустрэча дала свой плён.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – А; 5 –А; 6 – В; 7 – В; 8 –Б; 9 – А; 10 – А


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 355

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 22.01.2024 г. у 7.50



**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by



ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь